*Гутарка са знакамітым скульптарам, народным мастаком Беларусі Іванам Міско – на 4-й стар.*

*На прастор, на шырокі разлог*
*Выходзі, мой народ, грамадою...*
**Якуб КОЛАС**

**№ 85 (4440)**

29 кастрычніка 2019 г.
Выдаецца з ліпеня 1995 г.
на беларускай
і рускай мовах

Выдавец:
УП «Народная Воля».
Кошт — свабодны.

# Народная Воля

**Да ўвагі!**
*Хто хоча набываць газету ў офісе рэдакцыі — чакаем!*

ДАБРАЧЫННАЯ АКЦЫЯ

## Каб у 600 бібліятэках была «Народная Воля»!



Не сакрэт: з-за мізэрных пенсій, невысокіх заробкаў многія людзі не маюць магчымасці падпісвацца на перыядычныя выданні. Ужо працяглы час назіраецца такая тэндэнцыя – расце колькасць грамадзян, якія, каб пачытаць газеты, ідуць у публічныя бібліятэкі. Зыходзячы з гэтага, рэдакцыя «Народнай Волі» ў канцы мінулага года разгарнула кампанію па зборы сродкаў для таго, каб **600** бібліятэк нашай краіны змаглі рэгулярна атрымліваць «Народную Волю». Водгукі, якія да нас даходзяць, самыя станоўчыя. Людзі з невысокім дастаткам удзячны нам і ўсім ахвярадаўцам за такі дабрачынны крок, кожны нумар газеты чакаюць з вялікім нецярпеннем.

І вось ужо поўным ходам ідзе падпіска **на першую палову 2020 года,** і нам нельга пакінуць бібліятэкі без «Народнай Волі» **у студзені–чэрвені.** На жаль, з уласнымі фінансамі ў рэдакцыі вялікі дэфіцыт (ад дзяржавы не маем ніякіх прэферэнцый). Таму мы аб'яўляем чарговую дабрачынную акцыю па зборы фінансавых сродкаў, з тым каб і ў наступным годзе **600** публічных бібліятэк атрымлівалі «Народную Волю». Але на гэты раз ахвяраванні вырашылі збіраць не праз краўдфандынг, а непасрэдна праз разліковы рахунак рэдакцыі.

Дапамажыце, калі ласка, – з такой мальбой звяртаемся да ўсіх, хто мае магчымасць працягнуць руку дзеля гэтай высакароднай справы. Ведома ж, перш-наперш наш зварот да кіраўнікоў бізнес-кампаній, фірм, прадпрымальніцкіх структур. У вырашэнні надзвычай важнай «бібліятэчнай праблемы» можаце ўзяць удзел не толькі вы самі, але і вашы супрацоўнікі. Заўважым: каб афарміць падпіску на «Народную Волю» на першую палову 2020 года для **600** публічных бібліятэк, неабходна сабраць каля **36.000** рублёў. Рады будзем ахвяраванням у любым памеры. Рэквізіты для пералічэння грошай (*з аднакай «Падпіска для бібліятэк»*):

**Выдавецкае прыватнае ўнітарнае прадпрыемства «Народная Воля»**

**220030 г.Мінск, вул.Энгельса, 34а**
**УНП 100961759**
**банкаўскія рэквізіты:**
**р/р BY08 PJCB 3012 0065 3510 0000 0933**
**у «Прыёрбанк» ААТ, ЦБУ 113**
**BIC: PJCBBY2X**
**220030, г.Мінск, вул.Камсамольская, 13.**

Адначасова хочам адзначыць: выказваючы шчырую ўдзячнасць усім патэнцыйным ахвярадаўцам, рэдакцыя газеты «Народная Воля» заўжды гатова наладзіць з вамі самыя цесныя стасункі. Рады будзем бачыць вас у нашым офісе па адрасе: Мінск, вул.Энгельса, 34а. Кантактны тэлефон – 8-017-368-68-71.

**Рэдакцыя газеты «Народная Воля».**

АЎКЦЫЁН

### На продаж…

Урад дазволіў пяці прадпрыемствам выставіць на аўкцыён частку сваёй нерухомасці.

Напрыклад, холдынгу "Гарызонт" дазволілі прадаць з аўкцыёну капітальнае збудаванне па вуліцы Куйбышава ў Мінску. Таксама ўхвалены продаж будынка ААТ "Хімрамонт" на вуліцы Асаналіева ў сталіцы, збудаванні Гомельскага радыёзавода па вуліцы Аб'езнай, 9/20 у Гомелі.

Сваю маёмасць выставяць на таргі МАЗ і гомельскае аб'яднанне "Крышталь".

ФАКТ

### Польшча зацікаўлена ў беларускіх урачах

Ва ўсялякім разе Міністэрства аховы здароўя Польшчы плануе ўвесці новыя правілы прыёму на працу ўрачоў з-за межаў Еўрасаюза. У прыватнасці, такім урачам не трэба будзе праходзіць настрыфікацыю дыплома. Дазвол на працу будзе выдавацца ў канкрэтнай польскай бальніцы пасля праходжання іспыту, які дае права медыкам на прафесійную дзейнасць у Польшчы. Канчатковае рашэнне аб працаўладкаванні застанецца за Акруговай медыцынскай палатай – рэгіянальным органам дактарскага самакіравання.

Для рэалізацыі гэтай ініцыятывы трэба ўнесці папраўкі ў Закон аб прафесіях ўрача і стаматолага. Праект змен паступіў у Сейм Польшчы.

ОТКРЫТЫМ ТЕКСТОМ

## Андрей ДМИТРИЕВ, лидер кампании «Говори правду»: «Буду рассказывать, что меня избрали, просто власть решила этому не мешать»



Вторую подряд кампанию по выборам в Палату представителей по Дзержинскому избирательному округу №71 Минской области баллотируется сопредседатель Республиканского исследовательско-просветительского общественного объединения «Говори правду» Андрей Дмитриев. В 2016 году, как было объявлено официально, за него проголосовало 15% избирателей.

На что политик рассчитывает в этом году? Что говорит о своих конкурентах? Готов ли проявить солидарность с кандидатами, предвыборные выступления которых не пустили в эфир на телевидении или которых сняли с предвыборной гонки?

Об этом лидер «Говори правду» рассказал в интервью «Народной Воле».

**– Началась предвыборная кампания, а Андрея Дмитриева, на мой взгляд, почти не слышно. Вокруг других кандидатов гремят скандалы. Мне кажется, ваш голос должен звучать громче.**

– Возможно, нас не слышно в Минске. Наша организация приняла принципиальное решение: в эту избирательную кампанию мы двигаемся и работаем в регионах, чтобы там о нас узнали еще больше и чтобы там появились наши региональные организации. В разных городах Беларуси мы выставили 41 инициативную группу, на регистрацию кандидатами было заявлено 25 человек. В итоге 14 представителей «Говори правду» зарегистрированы кандидатами в депутаты и только один из них – в Минске.

Кампания в регионах уже началась. Организован большой пикет в Несвиже, в эту субботу провели пикет в Лепеле, на следующую субботу запланированы такие же масштабные мероприятия в Волковыске, Хойниках, Дзержинске.

Что касается лично меня, я второй раз подряд на парламентских выборах баллотируюсь в Дзержинске и Фаниполе. И для меня важно, что меня слышат в моем округе! Первое подтверждение этого: я собрал полторы тысячи подписей только силами местных жителей, и избирательная комиссия из этих полутора тысяч нашла только одну недостоверную подпись: человек не вписал свои паспортные данные…

**– То есть ваша команда – это жители Дзержинска и Фаниполя?**

– Да, в команде более 20 человек. Люди предлагают свои машины, чтобы у меня была возможность ездить по району, дают деньги на агитацию…

**– Чем объясняете такую активную поддержку?**

– Тем, что меня хорошо знают в регионе, я не появился вдруг и ниоткуда. Я сам живу в Дзержинском районе. После парламентских выборов 2016 года, на которых проиграл, все равно остался в округе, и мы продолжили кампанию, которую начали. Это и благоустройство сел, появление там детских площадок. И требование пустить прямой автобусный маршрут между Фаниполем и Минском. К слову, появилось автобусное сообщение Минск–Фаниполь–Дзержинск–Минск, но мы требуем именно прямого сообщения, это справедливо по отношению к жителям Фаниполя.

**– Мне кажется, это можно было бы назвать достижением, если бы вы шли в местные Советы…**

– Я выступаю за самоуправление, за то, чтобы наши налоги оставались на местах. Тогда будут деньги на решение локальных вопросов. Сегодня мы видим двойные стандарты, когда в 20 километрах от Дзержинского района, в Минске, люди живут совсем по-другому, хотя все мы – граждане Беларуси. Обо всем этом я сегодня говорю людям и вижу, что это находит поддержку.

**– В центре внимания вашей предвыборной деятельности местные, локальные проблемы. Другие кандидаты поднимают общегосударственные вопросы, правда, и страдают из-за этого: их выступления не пускают в эфир на телевидении, снимают с выборов. Почему вы молчите? Это ваша тактика?**

– Мы тоже говорим об общих проблемах. Например, выступаем за присоединение Беларуси к Европейской хартии самоуправления и собираем за это подписи.

*(Окончание на 2-й стр.)*

НУ І НУ!

## Ігар Барысаў ледзь не застаўся без жонкі і дзяцей

*Акруговая выбарчая камісія №106 ледзь не справакавала сямейны канфлікт: з біяграфічных звестак старшыні Беларускай сацыял-дэмакратычнай партыі (Грамада) зніклі жонка і двое дзяцей!*

«Таксама знікла інфармацыя пра мой дыплом магістра паліталогіі, – *распавёў Ігар Барысаў «Народнай Волі».* – Як так здарылася? У камісіі мне патлумачылі, што, аказваецца, звесткі пра жонку і дзяцей неабавязковыя і ўключаюцца па жаданні кандыдата.

Пры гэтым тая біяграфічная інфармацыя, якая была прадастаўлена мной, чамусьці была праігнаравана камісіяй.

Пасля кароткага тактычнага бою з членамі камісіі я стаў не толькі жанатым з дзвюма дзецьмі, але і яшчэ больш разумным – займеў ступень магістра паліталогіі.

Увогуле, я не зусім задаволены тым, як працуе камісія. Дапускаюцца розныя тэхнічныя памылкі, часам даюць недакладную інфармацыю, абмежавалі мае біяграфічныя звесткі. У мінулую кампанію ў гэтым сэнсе не было ніякіх прыдзірак, далі інфармацыю цалкам так, як я прадставіў. А зараз яны склалі нейкую сваю форму, шмат павыкрэслівалі і зрабілі біяграфію зусім голай!»

**Марына КОКТЫШ.**



РЭГІЁН

## Папярэджанне кандыдату

*Кандыдату ў дэпутаты па Слонімскай выбарчай акрузе №58 **Віктару Марчыку** акруговая камісія вынесла папярэджанне за тое, што на час выбарчай кампаніі ён не пайшоў у працоўны адпачынак. Кандыдат тлумачыць, што, калі пойдзе ў адпачынак, яму не будзе за што ўтрымліваць сям'ю.*

Папярэджанне Віктару Марчыку, кандыдату ад дэмакратычных арганізацый Слонімшчыны, вынеслі ў мінулую пятніцу. Маўляў, паводле выбарчага заканадаўства, кандыдат у дэпутаты на час агітацыйнай кампаніі павінен узяць на працы неаплачваемы адпачынак, дзеля таго каб весці паўнавартасную агітацыю, а Марчык гэта патрабаванне праігнараваў.

Віктар Марчык сцвярджае, што графік працы не перашкаджае яму паўнавартасна праводзіць выбарчую кампанію.

*«Я працую вартаўніком толькі ўначы, а днём вяду агітацыйную кампанію,* – канстатуе кандыдат у дэпутаты. – *А калі я вазьму адпачынак за свой кошт, то напрыканцы месяца нічога не атрымаю. Мой заробак зараз складае 300 рублёў, і, калі я яго пазбаўлюся, мне не будзе нават чым заплаціць за камунальныя паслугі».*

Гэтыя аргументы, распавёў Марчык, у камісіі не сталі слухаць: маўляў, калі хочаш весці выбарчую кампанію, мусіш узяць адпачынак на працы.

*«Я нагадаў, што Лукашэнка, калі балатуецца ў прэзідэнты, ніколі не ідзе ў адпачынак. Але ў камісіі да гэтага ўжо былі гатовы і зацытавалі мне артыкул закона, паводле якога прэзідэнт мае права заставацца падчас выбарчай кампаніі на сваёй пасадзе».*




Віктар сказаў «Народнай Волі», што заяву на адпачынак на час выбарчай кампаніі пісаць усё роўна не збіраецца.

Ён таксама распавёў аб тым, чым цікавяцца жыхары акругі падчас сустрэч з кандыдатам у дэпутаты: як уладкавацца на прыстойную працу, каб атрымліваць годны заробак, калі ўрэшце з'явіцца годная медыцынская дапамога, добрыя дарогі, справядлівы суд, калі скончыцца бязмежжа з боку чыноўнікаў…

**Міхал КАРНЕВІЧ.**

**На здымку: Віктар Марчык падчас збору подпісаў.**

БЕЗ СРОКА ДАВНОСТИ

## Конвейер смерти

*Памяти жертв советского террора в Беларуси посвящается*

Во время кровавого разгула большевистских ВЧК, ОГПУ, НКВД, МГБ в прошлом столетии, пожалуй, не было такой семьи и круга родственников, из которых черное воронье не вырвало бы отца, мать, сына, дочь, брата, сестру, взрослых и даже несовершеннолетних.

Издевательства над людьми и их истребление чекистами носили плановый характер. В 1920-х – первой половине 1950-х годов в Беларуси подверглась репрессиям значительная часть населения. Согласно официальным данным, было репрессировано около 600 тысяч (по подсчетам независимых исследователей – свыше 1 миллиона) жителей БССР. Более 300 тысяч из них были расстреляны, замучены в застенках НКВД, погибли на этапах и в ГУЛАГе.

Даже трудно представить: наиболее способное к творческому и продуктивному труду население большого европейского города, сравнимого с сегодняшним Минском, попадает в лапы и кромешный ад ГУЛАГа.

С 1918-го по 1953 год в БССР среди пострадавших по социальному происхождению было: крестьян – 69%, рабочих – 16%, служащих – 9%. Если бы не эти потери, сегодня у нас была бы совершенно другая страна.

### Расстрельный приказ

31 июля 1937 года Политбюро ЦК ВКП(б) утвердило оперативный приказ №00447 «Об операции по репрессированию бывших кулаков, уголовников и др. антисоветских элементов», подписанный Народным комиссаром внутренних дел СССР Н.Ежовым.

Проанализируем важнейшие пункты этого документа, наложившего свой отпечаток на один из самых кровавых периодов в истории СССР и Беларуси.

В вводной его части подчеркивалось, что целью акции являлось «окончательное решение проблемы внутренних врагов Советского Союза»: «*Перед органами государственной безопасности стоит задача – самым беспощадным образом разгромить всю эту банду антисоветских элементов, защитить трудящийся советский народ от их контрреволюционных происков и наконец раз и навсегда покончить с их подлой подрывной работой против основ советского государства*».

И это не пустая риторика. В «органах» директиву истолковали как призыв к последнему бою, «*к прямой физической ликвидации всей контрреволюции, в том числе и пассивной*».

В тексте приказа приведен очень детальный список тех групп населения, которые должны были стать мишенью для операции.

Приказ регулировал, прежде всего, меру наказания, выносимую «тройками»: «*все наиболее враждебные*» элементы (первая категория) должны быть расстреляны, «*менее активные, но все же враждебные элементы*» (вторая категория) приговариваются к заключению в лагеря либо тюрьмы на срок от 8 до 10 лет.

Далее следовало распределение лимитов репрессий по первой и второй категориям в республиках, краях и областях (в целом 64 территориальные единицы): 40 областей, краев и автономных республик РСФСР, по 8 областей в Украине и в Казахстане и 8 союзных республик.

Местные руководители, начальник УНКВД и главный прокурор («двойка»), санкционировали составленные органами безопасности списки лиц, подлежащих аресту, и отправляли их с курьером в Москву, где высшая «двойка» (Народный комиссар внутренних дел Ежов и Генеральный прокурор СССР Вышинский) выносили окончательный вердикт.

Операция должна была начаться 5 августа и завершиться в течение четырех месяцев. На первой фазе репрессивные мероприятия должны были быть направлены, как и в приказе 44/21 от 2 февраля 1930 г., лишь против «*наиболее враждебных элементов*» (первой категории), с помощью чего предполагалось избежать переполнения мест заключения.

*(Окончание на 2-й стр.)*

З ПЕРШЫХ ВУСНАЎ



# Пётр ПАПРАЎКА: «Давайце не будзем ідыётамі!..»

*Карэспандэнт «Народнай Волі» пагутарыў з кандыдатам у дэпутаты Палаты прадстаўнікоў па Купалаўскай выбарчай акрузе №95, які з'яўляецца актывістам аргкамітэта па стварэнні партыі «Беларуская хрысціянская дэмакратыя».*

Пётр Папраўка нарадзіўся ў Мінску. Пасля школы адслужыў у арміі, па сутнасці, атрымаўшы спецыяльнасць метэаролага. Затым вярнуўся дадому, вырашыў паспрабаваць сябе ў прадпрымальніцтве.

*«Тады, у 1990-я, камерцыйныя кіёскі мелі поспех,* – расказвае ён. – *Адзін сябра, які з'язджаў на сталае жыхарства ў ЗША, прапанаваў мне свой бізнес – варыянт гандлёва-закупачнай дзейнасці.*

*Часы былі няпростыя, інтарэс да прадпрымальнікаў мелі і бандыты, і тыя, хто як быццам стаяў на варце закона. Я разумеў, што мне неабходна мець юрыдычную адукацыю, каб было чым адказаць на гэтыя «наезды», таму ў 1999 годзе скончыў Інстытут кіравання».*

З часам камерцыйныя кіёскі адышлі ў нябыт, Пётр заняўся працай па асноўнай спецыяльнасці. Акрамя таго, ён заўсёды быў чалавекам з актыўнай грамадзянскай пазіцыяй. Стаў актывістам аргкамітэта па стварэнні партыі «Беларуская хрысціянская дэмакратыя», браў удзел у розных акцыях...

**– Чаму вы ўсё-такі вырашылі балатавацца ў Палату прадстаўнікоў?**

– У мінулым годзе я ўжо браў удзел у кампаніі па выбарах у Мінскі гарадскі Савет народных дэпутатаў, таму пэўны досвед перадвыбарнай агітацыі маю. Я на ўласным вопыце пабачыў, наколькі «актыўнае» ў Беларусі грамадства. Улада пастаянна запалохвае людзей, і ў выніку значная частка народа ў нас ператварылася ў насельніцтва, якое не лічыць неабходным адстойваць свае правы і законныя інтарэсы. Але ўсё, чаго нам варта баяцца, гэта ўласнага страху.

Таму ўдзел у гэтай выбарчай кампаніі – маё свядомае рашэнне. Я бачу, што краінай кіруюць адны і тыя ж людзі, што ёсць пагроза страты незалежнасці і пагроза другога Чарнобыля, бо высновы са старых урокаў не зроблены і мы будуем новую атамную электрастанцыю. Ёсць таксама рызыка, што найбольш прагрэсіўныя людзі будуць масава з'язджаць за мяжу. Пра ўсё гэта трэба расказваць людзям.

**– На выбарах у Мінскі гарсавет вам не ўдалося атрымаць дэпутацкі мандат…**

– Але ж я ўзнімаў пытанні, якія хвалявалі многіх жыхароў сталіцы! Казаў пра ўшчыльненне забудоў, пра недастатковае азеляненне, пра праблемы, якія звязаны з арганізацыяй дарожнага руху. Складваецца ўражанне, што дваравыя тэрыторыі ці выезды на трасу ў нас першапачаткова планаваліся як пасткі для вадзіцеляў. Наколькі мне вядома, да гэтага часу няма паласы разгону з боку Свабоднай эканамічнай зоны «Мінск» (з вуліцы Прамысловай) на кальцавую дарогу. Там жа пастаянна аварыі, трагедыі, чалавечае гора, недастатковы функцыянал па дарожна-траспартнай сетцы.

У той жа Германіі дарожны рух арганізаваны такім чынам, што найперш думаюць пра бяспеку вадзіцеляў. Калі гэтага няма, то мясцовага дэпутата ўмомант адправяць туды, адкуль прыйшоў.

А праблема артэзіянскай вады ў сталіцы хіба не актуальная? На розных міжнародных форумах мы распавядаем, які ў нас чысты Мінск, якая экалагічная Беларусь, а якую ваду да гэтага часу п'юць людзі ў некаторых раёнах сталіцы? Адкуль здароўе ў народа пасля гэтага?

Людзі – не дурні, усё разумеюць. Калі чыноўнікі іх не пачуюць, то многія, як ужо казаў, зробяць свой выбар наконт таго, дзе будаваць сваю будучыню: на Бацькаўшчыне альбо ў іншай краіне, дзе ўлада дазваляе абіраць і быць абраным.

Увогуле, улада павінна змяняцца, каб быць адказнай за свае дзеянні і прынятыя рашэнні. Як кажуць, нават у самых прыгожых ботах неабходна змяняць анучы, каб гангрэна не пазбавіла ног разам з ботамі.

Таму хочацца, каб і на нашай вуліцы было свята. Як казаў Жорж Жак Дантон: «Радзіму немагчыма знесці на падэшвах ботаў».

Дарэчы, у арміі я служыў на авіябазе і прымаў прысягу пад бел-чырвона-белым сцягам.

**– Вы вылучаліся не шляхам збору подпісаў?**

– Аргкамітэт па стварэнні БХД уваходзіць у правацэнтрысцкую кааліцыю, таму я вылучаўся ад Аб'яднанай грамадзянскай партыі. Я – юрыст, чалавек, які заўсёды рэальна ацэньвае сітуацыю, таму цудоўна разумею, што ў нашай краіне суб'ектывізм і цынізм не ведаюць ніякай меры. У дадатак – апатыя і запалоханасць грамадства. Таму збор подпісаў – гэта, безумоўна, добры варыянт, але не ў нашых умовах. Для мяне ўсё магло закончыцца на этапе рэгістрацыі. Сістэма працуе так, што, калі захочуць «зарэзаць», зробяць гэта без праблем. І нічога не абскардзіш – ніхто і слухаць не будзе. У мяне была задача-мінімум – зарэгістравацца кандыдатам, каб можна было падчас агітацыйнага перыяду даводзіць да людзей тое, пра што не кожны скажа.

Дарэчы, у маёй акрузе чыноўнікі з выбарчай камісіі спачатку адмовілі ў рэгістрацыі прадстаўніку Асацыяцыі інвалідаў-вазочнікаў Яўгену Шаўко. А ён ганарыўся сваім удзелам у выбарах, казаў, што сабраў 1470 подпісаў замест тысячы неабходных. Але знайшлі, да чаго дачапіцца, – адмовілі. Людзі, якія пазбаўлены многіх радасцяў у гэтым жыцці, хацелі мець у парламенце чалавека, які расказваў бы пра іх праблемы. Я тым сябрам камісіі прама ў вочы і сказаў: «Такім сваім учынкам вы зрабілі сабе вялікую дзірку ў карме. Дай Бог, каб вы самі ніколі ў гэтым вазку не апынуліся».

Да слова, затым праз суд Яўген Шаўко дамогся, каб яго ўсё-такі зарэгістравалі кандыдатам у дэпутаты.

**– Што сёння вы можаце прапанаваць выбаршчыкам, каб яны за вас прагаласавалі?**

– Я толькі агучваю свае погляды на тое, што адбываецца ў краіне і што хацелася б змяніць, а выбаршчыкі самі павінны крытычна асэнсаваць сітуацыю, у якой жывуць. Яшчэ Платон казаў: «У пакаранне за грамадзянскую пасіўнасць атрымаеце ўладу злодзея». А старажытнагрэчаскае слова «ідыёт» азначае чалавека, які не ўдзельнічае ў грамадска-палітычным жыцці сваёй дзяржавы. Таму давайце не будзем ідыётамі. Людзі самі павінны задумацца, каму аддаваць перавагу падчас галасавання. Кожны сам павінен зрабіць выбар для сябе.

А навошта мне дэпутацкі мандат? Каб уплываць на тыя заканатворчыя працэсы, якія адбываюцца ў нашай краіне, каб законы працавалі для беларускага народа. Каб законы рэальна прыводзілі да працвітання краіны і дабрабыту людзей. Каб кожны адчуваў сябе абароненым і ведаў, што закон – не кісцень, а інструмент для пакарання тых, хто дае ілжывыя паказанні на судзе, і тых суддзяў, якія прымаюць да веры гэтыя паказанні.

**– Вы сур'ёзна лічыце, што беларускія дэпутаты могуць на нешта ўплываць?**

– Я разумею, што ў сённяшнім выглядзе беларускі парламент працуе ў асноўным у рэжыме ўсеагульнага адабрэння дзеянняў вярхоўнай улады, але ж, як мне падаецца, тэндэнцыя крыху змяняецца.

Напрыклад, калі абмяркоўвалі ініцыятыву Мінабароны аб прызыве маладых людзей у армію, нягледзячы на адукацыю, была нейкая дыскусія і парасткі здаровага сэнсу. Бо ў кожнага ёсць сыны і ўнукі, і нехта ўтрымаўся, а хтосьці ўжо выказаўся супраць.

**– Пётр, калі адысці ад палітыкі... Чым вы займаецеся ў звычайным жыцці? Дзе працуеце?**

– Аказваю юрыдычныя паслугі ў адной кампаніі (да слова, жонка – таксама юрыст), яшчэ захапляюся скульптурным пластылінам і жывапісам.

У мяне два сыны – старэйшы не так даўно вярнуўся з арміі.

Падтрымліваю здаровы лад жыцця, на веласіпедзе катаюся, што называецца, зімой і летам.

**– Сям'я падтрымала вашу ідэю балатавацца ў парламент?**

– Усе разумеюць, што сёння, калі ты маеш сваю пазіцыю, якая не супадае з праўладнай, паход у палітыку можа быць і небяспечным. Але ж і ў абаронцаў Брэсцкай крэпасці таксама былі сем'і – дзеці, жонкі, бацькі, дзядулі і бабулі. Але ў іх была і Радзіма, інтарэсы якой яны адстойвалі.

Таму з боку сям'і – ніякіх пярэчанняў. А вынік ад майго ўдзелу ў выбарах, як я мяркую, будзе ў любым выпадку…

**Алесь СВЯТЛАНІЧ.**

ОТКРЫТЫМ ТЕКСТОМ

# Андрей ДМИТРИЕВ, лидер кампании «Говори правду»: «Буду рассказывать, что меня избрали, просто власть решила этому не мешать»

*(Окончание. Начало на 1-й стр.)*

У Минска сегодня слишком много полномочий, нужно больше денег и полномочий на местах. В этом мы видим ключ к решению многих вопросов, начиная от свободы бизнеса и заканчивая порядком во дворах.

Представители «Говори правду» тоже говорят о том, что стране нужны перемены. И в экономике, и в социальной сфере, которую потихонечку «подъедают». У нас шаг за шагом забирают то, что в современных реалиях недопустимо, – это и увеличение пенсионного возраста и страхового стажа, и бесплатная медицина...

Что касается солидарности с кандидатами от демократических сил, то кампания «Говори правду» открыла свой избирательный штаб для консультаций всем, кого не зарегистрировали кандидатами, и к нам многие обращались. Начальник штаба Сергей Возняк, наши юристы помогали составлять жалобы, подсказывали, как действовать. Например, Евгений Шевко, которого недавно суд потребовал зарегистрировать кандидатом, консультировался у нас…

Но часть кандидатов решила выступить с политизированной предвыборной речью против Александра Лукашенко. Мое мнение: зря власть так нервно на это реагирует. Но, с другой стороны, все понимают, в какой стране мы живем, и знали, что будет такая реакция. Значит, именно она им нужна. Я считаю, если бы я так выступил, это моим избирателям ничего не дало бы, а наоборот только отняло – не позволило бы мне отстаивать их интересы. Впереди президентские выборы, вот там и надо говорить об претензиях к президенту. А сейчас парламентские выборы, мы говорим о том, что надо менять в стране через конкретные примеры из жизни людей. Это более адекватное поведение в рамках парламентской кампании.

**– Андрей, кто ваш основной конкурент по округу?**

– Александр Саракач – председатель Дзержинского районного Совета депутатов. Еще по моему округу зарегистрирован глава БРСМ Минской области Кирилл Шик и представитель Либерально-демократической партии Денис Рыбалтовский. Думаю, что его к нам ЛДП прислала формально, что называется, отбыть номер. В отличие от Саракача и Шика он не местный, из Минска. Рыбалтовский не отдал свою предвыборную программу, не записался на дебаты.

**– У вас будут дебаты?**

– 29 октября будут записаны на телевидении, а потом уже их выпустят в эфир. Дзержинский округ – один из двух округов всей Минской области, где кандидаты согласились провести дебаты, за что я благодарен своим оппонентам. Александр Саракач и Кирилл Шик не устранились от дискуссии.

**– Андрей, вы активный пользователь социальных сетей, куда выкладываете много информации о предвыборной кампании. Из вашего поста я, например, узнала, что вы ходили на встречу Александра Саракача с избирателями, задавали ему вопросы. Но мне показалось любопытным не это, а тот факт, что в зале практически не было людей. На ваших встречах тоже так негусто? Людям, выходит, не интересны выборы?**

– В этом году мы с командой решили изменить подходы к агитации. В 2016-м я проехал буквально все деревни округа и выступил во всех сельских домах культуры. На эти встречи тогда приходило максимум 10–15 человек, а чаще всего – три-пять. Было очевидно, насколько это неэффективно, поэтому в этот раз мы решили ставить пикеты: тогда действительно можно увидеть людей, поговорить с ними… Кандидаты от власти от идеи встреч с избирателями не отказались. И мы подумали, что они наверняка используют административный ресурс, эти встречи будут проходить при полных залах, и решили: а почему бы и нам этим не воспользоваться? Законом не запрещено кандидату в депутаты присутствовать на встрече его оппонента с избирателями и задавать вопросы. Но оказалось, что к ним сегодня приходит еще меньше людей, чем приходило к нам в 2016 году. Мы же за неделю объехали десятки населенных пунктов (посчитали, что проехали более тысячи километров), провели десятки встреч.

Мы определили пять основных точек в округе, где будем проводить агитацию за меня как кандидата в депутаты и параллельно собирать подписи за конкретные местные вопросы, чтобы в конце кампании послать эти петиции местной власти. Например, в Фаниполе собираем подписи за появление прямого автобусного сообщения с Минском, в Дзержинске – за переоснащение Дзержинской районной больницы, которая уже давно нуждаемся в ремонте и новом оборудовании.

**– Как думаете, можете победить на выборах?**

– Думаю, да. Я вижу поддержку людей, она невыдуманная, не фейковая, не по разнарядке, а искренняя. Люди приходят и говорят, что будут голосовать за меня всей семьей…

**– То есть если пройдете в парламент, не станете говорить, что вас назначили.**

– Буду говорить, что меня избрали, просто власть решила этому не мешать. Это будет заслуженная победа. И я не буду играть в эти игры: назначен – не назначен.

Моя позиция простая: я делаю все, что могу, для победы на выборах, чтобы дать людям надежду. Став депутатом, я буду решать их конкретные проблемы. Я человек упорный! Я знаю, что даже благодаря тому, что я участвую в выборах и поднимаю эти вопросы, власть вынуждена что-то делать. Ну а если стану депутатом, буду представлять жителей своего округа в Палате представителей.

**Мария ЭЙСМОНТ.**

БЕЗ СРОКА ДАВНОСТИ

# Конвейер смерти

*(Окончание. Начало на 1-й стр.)*

Каждая территория была поделена на оперативные секторы (в Белоруссии было шесть таких секторов), в рамках которых оперативные группы под руководством опытного чекиста составляли списки арестов, производили задержания после утверждения этих списков руководителем НКВД и проводили следствие. Все это должно было происходить *«ускоренным и упрощенным образом»*, то есть без правовой защиты, очных ставок свидетелей, опроса специалистов, сбора и проверки доказательств.

Еще в апреле 1938 г. Вышинский дал указание прокурорам республик, краев и областей принимать жалобы на неправомерность внесудебных приговоров в рамках массовых операций лишь в исключительных случаях. Только если приговоренные к лишению свободы *«приводят серьезные доводы, указывающие на неправильность осуждения»*, дела могут быть проверены. В иных случаях «жалобщики» должны быть извещены о том, что решение является окончательным.

Сам Сталин в январе 1939 г. в письме к партийным руководителям и начальникам УНКВД сообщал, *«что применение физического воздействия в практике НКВД было допущено с 1937 г. с разрешения ЦК ВКП(б)»*.

О принуждении к признанию, о манипуляциях и фальсификациях следствия сегодня имеется достаточно много материалов, прежде всего многочисленные высказывания участвовавших в акции сотрудников НКВД.

На переломе 1937–1938 гг. чекисты в дополнение к многочисленным уже опробованным методам пыток (продолжительные беспрерывные допросы, избиения и др.) изобрели новый, адекватный для массовых операций метод допросов – так называемую выстойку, или стойку, – быстро нашедший широкое применение. Обвиняемых сгоняли в одну комнату, всех их ставили лицом к стене и по несколько дней не разрешали садиться и спать до тех пор, пока арестованные не давали показаний. Ничто не в состоянии лучше охарактеризовать жестокость этих методов, как то обстоятельство, что только в Белоруссии во время допросов были убиты более 20 заключенных.

Тяжелые последствия имела инструкция к приказу о том, что *«в процессе следствия должны быть выявлены все преступные связи арестованного»*; она стала поводом для разоблачения гигантских «конспиративных сетей», состоящих якобы из тысяч заговорщиков.

Пункт 5 приказа устанавливал состав и компетенцию «троек», наиболее предпочитаемой инстанции террора в истории советских массовых репрессий. Эти внесудебные органы были созданы, когда встал вопрос об осуждении сомнительных и считавшихся опасными советских граждан без соблюдения правовых норм, в большом количестве, ускоренным производством и без привлечения общественности.

Массовые операции не сочетаются с длительным производством по делу, «тройки» проявили себя в качестве оптимального псевдоюридического инструмента. История «троек» 1930-х годов еще далеко не изучена, их существование было вновь вызвано в памяти лишь благодаря публикации в 1990-е годы архивных материалов.

В середине 1934 года в ходе реорганизации ОГПУ, вошедшего в новообразованный Народный комиссариат внутренних дел (НКВД) в качестве Главного управления государственной безопасности (ГУГБ), «тройки» были упразднены. Однако уже в конце года по просьбам из провинции они вновь были введены в действие для внесудебного вынесения смертных приговоров, правда, на один-два месяца. Подобной практики Политбюро придерживалось до 1937 года.

Как же происходило заседание этого органа? Кроме трех «судей» (первый секретарь областного комитета компартии, прокурор и начальник управления НКВД) присутствовал секретарь, ведущий протокол. После краткого сообщения докладчика и на основании письменного описания дела, где предлагалось отнесение к категории 1 или 2, «тройка» выносила свое постановление. В протоколах порой даже не указывался соответствующий постановлению параграф уголовного кодекса. И такое конвейерное правосудие за одно заседание приговаривало сотни «антисоветчиков».

«Тройки» выносили свои постановления за закрытыми дверями, ни разу не увидев и не услышав обвиняемого, не давая ему ни малейшей возможности для защиты, лишь на основании подготовленных следователями документов и их доклада.

Пересмотр их решения, не требовавшего, в отличие от постановлений «двоек», подтверждения другой инстанцией, текстом приказа №00447 не предусматривался, так что руководители оперативных групп могли быстро привести в исполнение постановления «троек». Приговоренным «тройкой» к смертной казни не сообщали решения (подписанная Фриновским директива НКВД №424 от 8 августа 1937 г. это запрещала). Они умирали, не услышав его.

Предписание приказа №00447 хранить *«в тайне время и место приведения приговора в исполнение»* соблюдалось долго.

Изданный в 1939 году приказ №00515 предписывал на запросы членов семьи давать пресловутый ответ: «десять лет ИТЛ без права переписки». В 1945 году им наконец сообщили, что их родственники, приговоренные к 10 годам ИТЛ, умерли в заключении. Лишь после 1989 года в рамках реабилитации целые поколения советских граждан узнали о действительных причинах и датах смерти своих детей, родителей и друзей. Некоторые места казней и массовых захоронений были открыты также лишь в 1990-е годы, а большинство остается неизвестными до настоящего времени.

Именно в 1937-м кровавый разгул сталинского террора достиг самого высокого уровня. Незваные гости врывались в городские квартиры и деревенские хаты. Целыми семьями вывозили в Сибирь, на Север, в Казахстан и другие отдаленные местности СССР. Расстреливали в многочисленных Куропатах.

Лучшие из лучших назывались врагами народа и попадали в руки большевистских палачей. Кузьму Чорного, классика белорусской литературы, сажали на кол. Народного поэта Янку Купалу довели до того, что он пытался кончить жизнь самоубийством, дабы избежать глумления над собой. После варварских издевательств, истязаний государственный деятель и писатель Тишка Гартны (Жилунович) погиб в Могилевской психиатрической больнице...

Общественность должна помнить о черных событиях. Особенно тяжелый и трагичный день в истории белорусского народа – ночь с **29** на **30 октября 1937 г.**, когда в минской внутренней тюрьме НКВД БССР («американке») сталинские палачи расстреляли 103 видных представителя творческой и научно-технической интеллигенции, ряд ответственных работников ЦК, СНК, ЦИК, иных учреждений, в том числе народных комиссаров образования Александра Воронченко и Александра Чернушевича, наркома финансов Ивана Куделько, ректоров БГУ – Анания Дьякова, Язепа Кореневского, Алексея Кучинского, декана Евгения Успенского, профессора Степана Маргелова, члена-корреспондента АН БССР Якова Бронштейна, директоров Белпедтехникума Михаила Радевского и Игната Афанасьева вместе с преподавателями, второго секретаря ЦК КПБ(б) Миколу Арабея, 22 писателя и журналиста: Михася Чарота, Янку Неманского, Платона Головача, Алеся Дудара, Михася Зарецкого, Василя Коваля, Юлия Тавбина, Валерия Морякова, Василия Сташевского, Зяму Пивовара, Изю Харика, Тодара Кляшторного, Анатолия Вольного, Юрку Лявонного, известных в то время журналистов Виктора Войного, Павла Шестакова…

Многие из арестованных были настолько избиты, что не могли стоять на ногах и их волоком тянули на расстрел. А жен, детей и близких отправили на долгие годы в исправительно-трудовые лагеря.

Во многих случаях репрессии носили массовый характер и были направлены не только против представителей творческой интеллигенции, но и крестьян, рабочих и представителей других слоев населения.

**Игорь КУЗНЕЦОВ, кандидат исторических наук, доцент.**

*(Продолжение в следующем номере.)*

ГРОМКАЯ ТЕМА

# За измену Родине арестуют без согласия президента

*На днях в интернете появилось заявление в Генеральную прокуратуру и Следственный комитет, который подписали представители Консервативно-Христианской партии – БНФ* ***Зенон Позьняк, Юрий Беленький и Сергей Попков.***

*Они просят провести следственные действия по поводу высказывания А.Лукашенко о том, что те, кто входит в так называемый кадровый реестр главы государства, находятся под его личной защитой.*

*«Люди, которые находятся в кадровом реестре президента, обладают определенными полномочиями и защитой, иммунитетом, – сказал Александр Лукашенко. – К примеру, без разрешения президента их нельзя задерживать, арестовывать. Это важно для того, чтобы они могли самостоятельно действовать».*

*Представители КХП–БНФ считают, что «действия А.Лукашенко грубо нарушают Конституцию Республики Беларусь», что глава государства в данном случае превышает свои полномочия и создает касту неприкасаемых.*

***«Народная Воля» поинтересовалась, что по этому поводу говорит закон и какими актами предусмотрен особый порядок задержания тех, кто находится в кадровом реестре главы государства.***

Как оказалось, эта норма далеко не новая, она регламентируется Уголовно-процессуальным кодексом, главой 49, которая определяет порядок производства по уголовным делам в отношении отдельных категорий лиц. Эта глава была принята в 2006 году депутатами Палаты представителей Национального собрания Республики Беларусь. Вот цитата оттуда:

*«Лицо, занимающее высшую государственную должность Республики Беларусь, а также лицо, должность которого включена в кадровый реестр Главы государства Республики Беларусь, назначенное на эту должность Президентом Республики Беларусь, не могут быть задержаны и иным образом лишены личной свободы без предварительного согласия Президента Республики Беларусь, за исключением случаев совершения измены государству либо задержания на месте совершения преступления».*

В УПК также говорится, что органы, осуществившие задержание лиц из кадрового резерва главы государства, должны *«немедленно»* сообщить об этом президенту.

Если и поднимать вопрос, то об исключении из Уголовно-процессуального кодекса соответствующих частей главы 49.

**Марина КОКТЫШ.**

СКАНДАЛ

# ПЭН-центр вскипел

Тридцать лет назад, когда в только что созданном по инициативе Алеся Адамовича и Василя Быкова белорусском ПЭН-центре избирали президентом (так тогда называлась нынешняя председательская должность) Рыгора Бородулина, никто и не подозревал, что в новой общественной организации могут кипеть такие страсти. Однако – закипело.

Для тех, кто не знает: ПЭН – международная организация, объединяющая писателей и журналистов и созданная с целью защиты прав пишущих людей. Первым главой международного ПЭНа был великий Джон Голсуорси, автор «Саги о Форсайтах», лауреат Нобелевской премии по литературе. С тех пор ПЭН традиционно вступался за всех мастеров пера, кто оказывался в беде, подвергался по различным признакам дискриминации. Он также содействовал молодым творческим личностям в получении специальной подготовки. В общем, такая смесь правозащитного движения с творческим союзом.

«Точка кипения» белорусского ПЭНа возникла в строгом соответствии с уставом организации. Согласно уставу, члены ПЭНа должны платить взносы. И вот с этим как раз было не все в порядке. Выяснилось, что некоторые их не платят. Кто-то – за неимением средств (в настоящее время годовой взнос составляет 38 рублей и 50 белорусских копеек), кто-то же – в знак протеста. Последний, впрочем, оказался всего один – но с громким голосом. Павел Северинец. Его протест длился около трех лет, и, несмотря на многократные напоминания о необходимости уплачивать взносы, Павел Константинович категорически отказывался это делать.

Раде ПЭНа это надоело, и Северинца исключили.

Случившееся в свое время исключение Северинца из БНФ имело куда меньший резонанс. В знак протеста против исключения Северинца (происходившего, как, впрочем, признал сам исключенный, в полном соответствии с уставом организации) из ПЭНа начали выходить те, кто почему-либо был не согласен с руководством организации либо не видел надобности в дальнейшем своем в ней пребывании.

Против чего же изначально протестовал литератор Северинец? По его мнению, руководство ПЭНа превратилось в оплот ЛГБТ-активистов, масонов и «культурных марксистов». Требовалось очищение, и Северинец готов был выступить в роли нового Савонаролы – был такой монах-доминиканец, пытавшийся очистить Флоренцию времен Медичи от скверны.




Правда, проводя ревизию рядов, ПЭН нечаянно выяснил, что за неуплату взносов исключили и некоторых других писателей – уже с нарушением не устава, но чисто человеческих правил поведения. Так, в частности, автор многотомных трудов о творчестве Василя Быкова, Рыгора Бородулина, составитель сборников памяти Геннадия Буравкина и в честь Светланы Алексиевич, биограф Владимира Некляева Сергей Шапран узнал о своем исключении совершенно случайно – в телефонном разговоре с новым главой ПЭНа Татьяной Недбай, которая позвонила ему, чтобы … предложить восстановить членство в организации. Точно так же был исключен и один из основателей организации, известный литературовед и публицист Семен Букчин.

На общем собрании организации, которое проходило 27 октября, в минувшую субботу, эти ошибки были исправлены, Шапрана и Букчина в организации восстановили. Пока, впрочем, не известна реакция восстановленных на этот «акт милосердия», но, будем надеяться, масла в огонь они подливать не будут.

Был восстановлен в рядах и Павел Северинец. Правда, его заставили признать, что и ЛГБТ-активистов, и даже марксистов и масонов Павел любит вполне братской и христианской любовью. Однако возвращение в лоно ПЭНа политика с репутацией гомофоба вызвало новое повышение градуса температуры в зале. Около тридцати членов организации покинули зал в знак протеста, а один из самых популярных сегодня белорусских писателей, Альгерд Бахарэвич, в «Фейсбуке» сделал заявление, что порывает с ПЭНом в знак протеста против этого решения, принятого также, мягко говоря, не без шероховатостей.

Можно себе представить шок находившейся в зале и давшей накануне согласие баллотироваться на пост председателя ПЭН-центра Светланы Алексиевич, слышавшей все эти крики и видевшей, как молодые литераторы рвут мандаты. При этом потом многие участники собрания признавались: только присутствие в зале Светланы Александровны удерживало их от участия в еще более решительных формах противостояния.

Тем не менее, ПЭН уцелел и даже не раскололся формально. Пока не известно – может быть, это и к лучшему. В любом случае есть надежда, что в ближайшие два года, на которые главой организации избрана Светлана Алексиевич, скандальных исключений больше не будет. Непонятно, правда, что делать с теми, кто выходил из ПЭНа в знак протеста против исключения Северинца, и не пожелают ли они во второй раз подать заявление о вступлении в него.

Обидно также, что собственно о литературе на общем собрании ПЭНа говорили очень мало. Но это, как утверждает ведущий одной из телепередач НТВ, совсем другая история.

**Александр ФЕДУТА.**

СТОП-КАДР

# Памяць паўстанцаў ушанавана

У Свіслачы і Якушоўцы Гродзенскай вобласці на радзіме Кастуся Каліноўскага адзначылі Дзень памяці паўстанцаў 1863 года.

Ужо больш як на працягу 20 гадоў у апошнюю нядзелю кастрычніка ў Свіслач з'язджаюцца людзі з розных гарадоў Беларусі, каб ускласці кветкі да адзінага ў Беларусі помніка Кастусю Каліноўскаму і ўшанаваць памяць паўстанцаў 1863 года.

Як заўсёды, кветкі былі ўскладзены і на магілу ягонага брата Віктара, які пахаваны на свіслацкіх могілках, і да помніка Рамуальду Траўгуту, аднаму з кіраўнікоў паўстання. Таксама ўдзельнікі акцыі наведалі сядзібу Каліноўскіх у вёсцы Якушоўка Свіслацкага раёна.




Урачыстасці адбываліся пад бел-чырвона-белымі сцягамі, на працягу ўсёй акцыі ўдзельнікаў здымалі на камеру міліцэйскія апаратары.

**Аляксей МІХАЛЁЎ.**

**На здымку: удзельнікі Дня памяці паўстанцаў 1863 года ў Свіслачы і Якушоўцы.**

ПАМЯЦЬ

# У Кабыляках адбыліся суботнік і набажэнствы

27 кастрычніка ў Кабылякі, вёску пад Оршай, дзе ў 1930-я гады сталінскія каты масава расстрэльвалі людзей, адбылася вандроўка сябраў грамадзянскай ініцыятывы «Кабылякі», у якую апроч грамадскіх актывістаў уваходзяць нашчадкі тых, хто загінуў на Кабыляцкай гары. У арганізацыі вандроўкі таксама бралі ўдзел Саюз палякаў на Беларусі і амбасада Польшчы: вядома, што значная частка расстраляных у Кабыляках былі грамадзянамі Беларускай ССР польскага паходжання.

Ва ўрочышчы быў праведзены суботнік і адбылося набажэнства. Таксама прайшла імша ў касцёле Святога Юзафа. У касцёле служба ішла на беларускай мове, на Кабыляцкай гары – па-польску.

На месцы расстрэлаў усталяваны помнік у гонар ахвяр рэпрэсій – беларускіх палякаў. Нашчадкі рэпрэсаваных уладкавалі часовыя таблічкі і запалілі знічкі – так, аднак, каб агонь не перакінуўся на лісце. Выступілі тыя, хто пажадаў нагадаць пра сваіх родных. У акцыі таксама бралі ўдзел вядомы даследчык рэпрэсій гісторык Ігар Кузняцоў і намеснік амбасадара Польшчы ў Беларусі Марцін Вайцяхоўскі.

**Алесь КЛЯЎЧУК.**

РЭГІЁН

# Экспазіцыі Старога замка больш не будзе

*Начальнік упраўлення культуры Гродзенскага аблвыканкама* ***Алена Клімовіч*** *параіла гродзенцам і гасцям горада наведаць экспазіцыю музея ў Старым замку, паколькі літаральна праз месяц яе не стане.*

Алена Клімовіч патлумачыла праз сацыяльныя сеткі, што ў сувязі з пачаткам другой чаргі работ па рэканструкцыі Старога замка ў Гродне будзе зачынена і дэмантавана музейная экспазіцыя, якая існавала на працягу аднаго пакалення гродзенцаў.

«*Гэта неабходна для правядзення зандажу і абмераў і прыняцця рашэнняў пры далейшым праектаванні*, – піша чыноўніца. – *А таму зараз маецца, можна сказаць, апошняя магчымасць наведаць экспазіцыю музея, якая сама становіцца гісторыяй. Паспяшайцеся зрабіць гэта*».

Дарэчы, Гродзенскі гісторыка-археалагічны музей быў заснаваны ў 1920 годзе. У пастаяннай экспазіцыі музея зараз больш за 7 тысяч прадметаў. У Старым замку 19 залаў у якіх можна пазнаёміцца з разнастайнымі матэрыяламі па гісторыі Гродна і вобласці, а таксама прыродай Прынёманскага краю.



**Аляксей МІХАЛЁЎ.**

**На фота: сучасная экспазіцыя ў Старым замку.**

СІТУАЦЫЯ

# Чаму Змітру Паліенку прызначылі прымусовае лячэнне ад алкагалізму?

*Як паведамлялася, днямі ў Мінскім гарадскім судзе абвешчаны прысуд па крымінальнай справе актывіста анархісцкага руху Дзмітрыя Паліенкі.*

Яго прызналі вінаватым у асабліва злосным хуліганстве і асудзілі на 3 гады «хатняй хіміі» (абмежаванне волі без накіравання ў папраўчую ўстанову), скінуўшы год па амністыі. Акрамя гэтага, суд прызначыў Паліенку прымусовае лячэнне ад алкагалізму. Самае цікавае, што апошнім часам наогул не было чутно пра схільнасць актывіста да ўжывання алкагольных напояў.

«*Я разумею, адкуль ногі растуць*, – кажа Зміцер Паліенка. – *Гісторыя пачалася яшчэ ў 2013 годзе, калі я быў актывістам нацыянал-бальшавіцкага руху і праводзіў шмат розных акцый пратэсту. У 2014 годзе, напярэдадні чэмпіянату свету па хакеі, які праводзіўся ў Мінску, мяне, відаць, вырашылі ізаляваць.*

*Відавочна, што я быў пад пастаянным наглядам міліцыі, неяк на мяне склалі два пратаколы за распіццё алкагольных напояў у грамадскіх месцах. На гэтай падставе ў 2014 годзе і адправілі ў ЛПП. Працэс накіравання быў вельмі хуткі, хаця, наколькі мне вядома, у многіх выпадках наогул вельмі складана адправіць чалавека ў гэтую ўстанову*».

Зміцер Паліенка дадае, што тады ён абскардзіў судовае рашэнне аб накіраванні ў ЛПП, аднак вынікаў не дачакаўся, бо ў той час адбываў адміністрацыйны арышт у Цэнтры ізаляцыі правапарушальнікаў.

«*Адтуль мяне і адвезлі ў Светлагорск на «лячэнне» і, адпаведна, паставілі на ўлік да нарколага*, – працягвае малады чалавек. – *Зараз жа, калі на судзе вынеслі рашэнне накіраваць мяне на прымусовае лячэнне ад алкагалізму, я, натуральна, абурыўся. Гэта ўсё спецыяльна зроблена, каб мяне ачарніць. Спачатку яны прыбралі артыкулы, ад якіх моцна патыхала палітыкай, а затым вырашылі зрабіць у вачах грамадскасці злосным хуліганам і алкаголікам.*

*З уліку ў нарколага мяне ўжо даўно знялі. А перад гэтым судом накіравалі на экспертызу ў РНПЦ псіхічнага здароўя ў Навінках, і, відаць, «экспертны савет» даў суду пэўныя рэкамендацыі. Здагадваюся, з чыёй ласкі.*

*Год таму я з калоніі выйшаў на волю, з таго часу ні ў праваахоўнікаў, ні ў блізкіх не было ніводнай прэтэнзіі да мяне з нагоды таго, што быццам бы я злоўжываю алкагольнымі напоямі. І раптам – на лячэнне ад алкагалізму! Большага абсурду я яшчэ не бачыў!*»

**Алесь СВЯТЛАНІЧ.**

ЁСЦЬ ПЫТАННЕ!

# Як будуць хадзіць цягнікі да Вільнюса 22 лістапада?

Днямі ў некаторых СМІ з'явілася інфармацыя, што ў другой палове лістапада Беларуская чыгунка плануе распачаць рамонтныя работы на чыгуначным участку, які звязвае беларускую і літоўскую сталіцы, і з гэтай прычыны частка цягнікоў будзе знята з маршруту Мінск–Вільнюс–Мінск.

Як вядома, 22–24 лістапада ў Вільнюсе адбудуцца жалобныя ўрачыстасці з нагоды перапахавання Кастуся Каліноўскага і іншых паўстанцаў 1863–1864 гадоў. Тысячы беларусаў збіраюцца прысутнічаць на гэтых гістарычных мерапрыемствах. І раней гучалі прапановы звярнуцца да кіраўніцтва Беларускай чугункі з просьбай арганізаваць з 21 да 24 лістапада дадатковую колькасць цягнікоў па маршруце Мінск–Вільнюс–Мінск. А зараз высвятляецца, што, наадварот, колькасць чыгуначных рэйсаў у гэтыя дні да Вільнюса можа быць зменшна?

За каментарыем «Народная Воля» звярнулася да намесніка начальніка Беларускай чыгункі **Сяргея Сізава**. Нас цікавілі наступныя пытанні: ці сапраўды напрыканцы лістапада чакаецца рамонт рэек на дадзеным накірунку? Калі так, то чым гэта выклікана і ў які канкрэтна тэрмін будзе праводзіцца рамонт? Якія маршруты цягнікоў будуць адменены падчас рамонту? Вось які адказ мы атрымалі:

– *У сувязі з планавым капітальным рамонтам чыгуначнага моста на перагоне Ждановічы–Ратамка ўчастка Мінск–Маладзечна ў суткі 19, 20, 21, 26, 27, 28 лістапада 2019 года адмяняюцца з абарачэння цягнікі №803 Мінск–Вільнюс і №808 Вільнюс–Мінск.*

Трэба адзначыць, што акрамя цягніка №803, які адыходзіць з беларускай сталіцы ў 10.30 і прыбывае ў Вільнюс у 12.30, таксама штодня курсіруюць тры цягнікі. Яны адпраўляюцца з Мінска раніцай у 7.35, 8.13 і вечарам у 18.30. Але заўважце, што 22 лістапада да Вільнюса будуць хадзіць усе цягнікі. Лёгка можна даехаць у сталіцу суседняй краіны таксама аўтобусам і на ўласным транспарце, не кажучы ўжо пра самалёт.

**Вольга ГРЫНЯВІЦКАЯ.**

ДУХОЎНЫ СКАРБ

# Янка Купала – на ўвесь свет




Унікальная кніга выйшла ў сталічным выдавецтве «Мастацкая літаратура» – санеты Янкі Купалы на 17 мовах свету: у арыгінале і ў перакладах на армянскую, грузінскую, іспанскую, кітайскую, літоўскую, мангольскую, рускую, сербскую, славацкую, табасаранскую, татарскую, украінскую, французскую, чачэнскую, чувашскую і шорскую мовы. Большасць перакладаў зроблена адмыслова для новага выдання. Так, напрыклад, на іспанскую мову 22 санеты Песняра пераклала Анхела Эспіноса Руіс, на ўкраінскую – малады перакладчык з Крывога Рога Дзмітро Шчарбіна.

Шматмоўная кніга санетаў Я.Купалы будзе распаўсюджана па буйнейшых бібліятэках свету.

**Антон ЗАГОРСКІ.**

ЧУЛІ?

## Сом радуецца, заяц – у смутку

З 1 лістапада ў Віцебскай вобласці пачне дзейнічаць забарона на лоўлю сома. Штраф за парушэнне складзе да 12 базавых велічынь. А калі шкода дасягне 100 базавых велічынь і больш, то могуць прыцягнуць да крымінальнай адказнасці.

Затое з першай суботы лістапада ў Беларусі адкрываецца сезон палявання на зайца, вавёрку, норку і некаторых іншых жывёл.

КАЛОНКА АЛЕСЯ НЯЎВЕСЯ

## Пра еўра і даляры бабулю грэлі мары…

69-гадовая гамяльчанка зарэгістравалася на інтэрнэт-рэсурсе гандлёвага брокера і быццам бы стала ўдзельнічаць у біржавых таргах. Пераваляа брокеру больш за 20 тысяч долараў. Грошы як у ваду канулі…

Грошай мала ёсць ці да халеры –
Хочацца, каб больш яшчэ было…
Нават і карчы-пенсіянеры,
Што сядзяць бязвылазна ў кватэры,
Мараць, выбачайце, пра «бабло».
Пэўна, і бабулю грэлі мары,
Што багатай стане, быццам Крэз.
У яе «на смерць» былі даляры,
І даваў патроху райсабес.
Можна ў банк занесці пад працэнты,
Ажывіць, як кажуць, грошы ўсе:
«Капалі» б старой рублі і цэнты,
І раслі б запасы пакрысе.
Той, хто гэткі спосаб выбірае,
Атрымаць прыбытак неблагі
Можа сапраўды.
Аднак старая
«Шлях да Крэза» выбрала другі.
Зараз і старыя, дзякуй богу,
Крэпка асядлалі інтэрнэт.
Дык яго прызвала на падмогу,
Каб як след
Папоўніць свой бюджэт.
Верыла бабуля інтэрнэту:
«Грошай атрымаю – будзь здароў!»
Толькі ў тым нямашака сакрэту:
Інтэрнэт – рассаднік махляроў.
– Біржа – то грашовая крыніца, –
Абяцаў ёй брокер-прайдзісвет. –
Кожны можа там азалаціцца –
І дзіця, і стогадовы дзед.
Людзі заграбаюць там мільёны!
І калі мы ўклінімся ў таргі,
Разам атрымаем куш шалёны.
Грошыкі твае, мае – мазгі.
Так што паспрабуй, калі цікава…
Як чакае там шалёны куш,
Калі біржа – гэткая халява,
Дык не «тарганулі» старой чаму ж?
Можна, не выходзячы за дзверы,
Ёй абцяпаць здзелкі ўсе здалёк.
І не трэба нейкія паперы –
Толькі электронны кашалёк.
Не было ніякае прынукі:
Ад старой даляры і рублі
Брокеру пранырліваму ў рукі,
Як вада з-пад крана, пацяклі.
– Радавацца, бабка, ёсць нагода! –
Справаздачы брокер слаў штодня. –
Мы купілі акцыі завода,
Нам цяпер і Крэз твой не раўня!
Заўтра купім акцыі «Газпрама»,
Калі грошы ты прышлеш яшчэ.
Дык яна і слала…
Скажам прама:
Больш «вада з-пад крана» не цячэ.
Брокер з гэтых пор жыве ў раскошы,
Ён лятае ў Лондан і Парыж,
А бабулю аж «заелі вошы»:
Як вясною снег, расталі грошы,
Можа, дзеці скінуцца на крыж…
* * *
«Брокерства» такое – смех дый годзе.
Дык старым шукаць «капейку» дзе?
Яблыкі збірaць на агародзе
І гуркі вырошчваць наградзе.

## Сэнс байкі

Нарэшце разгарнуўся ўшыр
Сэнс байкі слыннага Крылова,
Што толькі калі страціш сыр,
Набудзеш ты свабоду слова…

## Выдаў бы ўсё…

Выходзячы з "зубнога" кабінета,
Сказаў сябрам юнак
з пакутным відам:
– Каб ведаў я дзяржаўныя сакрэты,
Усе б да аднаго, напэўна, выдаў…



АСОБА

# Іван МІСКО: «На роднай зямлі трэба жыць дбайнымі гаспадарамі, а не бязроднымі прыблудамі»

*У майстэрні знакамітага скульптара, народнага мастака Беларусі Івана Міско, здаецца, сышліся розныя эпохі: канцлер ВКЛ Леў Сапега прысуседзіўся да касманаўта Пятра Клімука, Ігар Лучанок напявае «Мой родны кут» самому Якубу Коласу, вынаходнік першых у Еўропе ракет Казімір Семяновіч вядзе мірныя гутаркі з купалаўцам Генадзем Аўсяннікавым… І шматлікая сябрына вялікіх беларусаў большае – скульптар працуе штодня. Хоць часам праходзяць цэлыя дзесяцігоддзі, пакуль задума знойдзе сваё ўвасабленне ў бронзе. Як тое нядаўна адбылося з помнікам Льву Сапегу ў Слоніме.*

**– Іван Якімавіч, найперш віншую вас з перамогай – помнік Сапегу нарэшце стаіць. Калі не памыляюся, яго ставілі гадоў пятнаццаць. Чаму так доўга?**

– Каб не Дзень пісьменства ў Слоніме, помніка там і дагэтуль не было б! Я ў гэтым проста пераканаы. Колькі за гэтыя 15 гадоў змянілася начальнікаў у Слоніме! Як ганаровы грамадзянін горада, я пастаянна ўзнімаў гэта пытанне. Адкрывалі дабрачынны рахунак – шмат хто абяцаў дапамагчы, але вынік быў амаль нулявы. Пакуль нехта не націснуў патрэбную кнопку, і справа была вырашана за некалькі месяцаў. Праўда, мне з маімі паплечнікамі Уладзімірам Піпіным, Сяргеем Логвінам і Валерыем Мітрафанавым давялося працаваць днём і ноччу, каб паспець да вызначаный даты.

**– На адкрыцці помніка вы сказалі, што Леў Сапега не павінен стаяць на плошчы Леніна. Ці прыслухалася да вашых слоў слонімскае начальства?**

– Начальства паабяцала разгледзець пытанне. А чым скончыцца – невядома.

**– Днямі я адведаў вашага Сапегу. Пастаяў каля помніка хвілін дзесяць, і за гэты час з Сапегам сфатаграфаваліся 12 чалавек, пераважна моладзь. Так што помнік ваш працуе, абуджае гістарычную памяць.**

– Так і павінна быць. Мы выбралі самае лепшае месца – там некалі Сталін стаяў. Давялося пазмагацца за вышыню помніка – ён каля пяці метраў. У Слонімскім выканкаме нам адразу запярэчылі: «Сапега ў вас завялікі, у нас помнік Леніну меншы». Мы ўсталявалі макет, супаставілі з навакольнымі будынкамі – ледзьве пераканалі чыноўнікаў. На жаль, у сферы культуры ў нас працуюць людзі, якія поўныя прафаны ў гэтай самай культуры, але любяць дыктаваць сваю волю. Размаўляеш з імі, і ствараецца ўражанне – яны цябе не чуюць і не хочуць чуць! З прадпрымальнікамі і то лягчэй дамовіцца. Пасля адкрыцця помніка на фуршэце я прапанаваў выпускаць у Слоніме гарэлку «Сапегаўка». І да мяне адразу падышоў дырэктар хлебазавода: «А я зраблю хлеб «Сапегаўскі» і на гэтым зараблю».

### «Культуру ў нашай краіне перадалі камунальнікам»

**– Ці цікавіцеся вы лёсам сваіх помнікаў? Ці ўсе яны ў належнай захаванасці?**

– Цікаўлюся. На жаль, не ўсе. Напрыклад, нейкія вандалы залезлі на мемарыял памяці братоў Купрыянавых у Жодзіне і зламалі адзін штык. Прыехалі рэстаўратары і… паадломвалі астатнія штыкі! Я абурыўся, напісаў скаргу. Паабяцалі аднавіць, але нічога не зрабілі. Праўда, павесілі шыльдачку «Ахоўваецца дзяржавай». Ну як так можна? А помнік, дарэчы, у 1977 годзе атрымаў Дзяржаўную прэмію СССР – па тых часах найвышэйшая адзнака. А пагледзіце на мемарыяльныя дошкі на вуліцах Мінска. Мы ж адліваем іх з бронзы, а яны – чорныя, недагледжаныя! Аказваецца, камунальнікі іх фарбуюць чорнай фарбай. Атрымліваецца, культуру ў нашай краіне перадалі камунальнікам…

**– Вас называюць касмічным скульптарам – вы і касманаўтаў ляпілі, і цэлыя кампазіцыі на тэмы космасу. Здаецца, у вас і майстэрня ў Зорным гарадку была?**

– Яна і цяпер ёсць. Праўда, я апошнім часам рэдка там бываю. Хацеў свой станок перавезці ў Мінск, але супрацоўнікі музея Зорнага гарадка паклалі ўжо на яго вока. На тым станку я ляпіў усіх, хто лятаў па праграме «Інтэркосмас».

**– У Зорным гарадку вашы героі не хварэлі на зорную хваробу?**

– Ніводзін! Усе касманаўты – людзі надзвычай далікатныя і цярплівыя, яны з павагай да мяне ставіліся. А яшчэ яны вельмі энергічныя, я ад іх заряджаўся, як ад акумулятара!

**– Напэўна, з большым натхненнем і ахвотай вы ляпілі касманаўтаў-землякоў.**

– Ды не, хоць, вядома ж, з землякамі завязвалася большае сяброўства. Скажам, Алег Навіцкі як толькі прыязджае на радзіму, абавязкова бывае ў мяне. Помню, перад сваім першым палётам ён на парозе майстэрні сказаў: «Я табе купка пазваню». І нейк надвячоркам – доўгі званок: «Пазнаеш?» Пазнаю, кажу, заходзь, калі ў Мінску. А ён смяецца: «Я з касмічнага карабля званю». Мне ажно мову аднялo! Чутно было – нібы ён поруч сядзіць… Сябры потым жартавалі: дорага табе абыдзецца гая размова, заплаціш па касмічным тарыфе. А калі Алег вярнуўся, супакоіў: «Іван, не турбуйся, усё за кошт «Раскосмасу». І потым неадноічы званіў з арбіты. Нейк спытаўся: «Ты яшчэ ў майстэрні?» – «У майстэрні». – «А я зверху пралятаю і бачу – святло ў акне гарыць». Заўсёды з жартамі ў нас размова.

**– На дзвярах вашай майстэрні аўтографы касманаўтаў. Я іх расчытваў і прыгадаў, што знакамітую «Начную песню вандроўніка» Гётэ напісаў менавіта на дзвярах паляўнічай хаткі. І ўсё ж – чаму вашы героі распісаліся менавіта на дзвярах?**

– Гэта традыцыя ідзе з Байканура. Там касманаўты перад палётам на дзвярах пакідаюць свае аўтографы. Клімук з Берагавым першыя распісаліся. Мае дзверы ўжо спісаны зверху данізу, я люстэрка на гэту справу ахвяраваў. Клімук і тут першым стаў – пакінуў аўтограф незвычайным фламастарам, якім нават пад вадой можна пісаць. Я гэта люстэрка берагу, нікому не дазваляю нават пыл з яго выціраць. Ужо былі ахвотнікі яго набыць. Не прадам, гэта ж гісторыя. Як гісторыя – вось гэта лямпа з 1932 года, яна з майго хутара каля вёскі Чамяры.

### «Трэба ачысціць крыніцы па ўсёй Беларусі»

**– А ваша родная хата захавалася?**

– Захавалася, хоць там цяпер жывуць чужыя людзі – купілі пад дачу. У верасні, калі адкрывалі помнік у Слоніме, я звазіў туды сваіх калег. Паказаў ім печ, на якой спаў, на якой маляваў у школьныя гады. Хлопцы адразу прапанавалі зняць тынк і знайсці тыя малюнкі.

**– Як фрэскі старажытныя.**

– Каб да тых «фрэсак» дабрацца, трэба ўсю печ разбурыць… Пахадзіў я па родных ваколіцах – усё змянілася, пазарасталі крыніцы. А іх столькі бруілася! Тады ж халадзільнікаў не было, смятану, масла і сыр апускалі ў крыніцы. І мы, падшыванцы, ведалі, дзе смятана, дзе масла, але ніхто ні разу не скраў, хоць есці пастаянна хацелася… Мы цяпер праводзім мастацкія пленэры пад дэвізам «Вада і камень». Я дамовіўся з рэктарам Акадэміі мастацтва Міхаілам Баразной і з загадчыкам кафедры скульптуры Уладзімірам Слабодчыкавым, каб гэту тэму актуалізаваць. Каб маладыя мастакі неяк упрыгожылі нашы крыніцы, каб можна было прыехаць, чыстай вады папіць, успомніць сваё дзяцінства. Хачу і прэзідэнту пра гэта ліст напісаць.

**– Каб усе крыніцы ў Беларусі сталі як «Трафімава крыніца» на Шклоўшчыне?**

– А чаму і не? Ну балюча ж глядзець, калі каля крыніц – бруд, гразь, машыны мыюць. Трэба іх ачысціць. Неяк у пасёлку Нарач паказалі мне крыніцу. Пытаюся: хіба нельга ўпарадкаваць? Кажуць: грошай няма. У курортным пасёлку няма грошай, каб зрыб над крыніцай паставіць! А яшчэ там непадалёку ёсць стары дзот, дзе была абсталявана лазня па-чорнаму, і там неадноічы парыўся касманаўт №2 Герман Цітоў. Чаму не аднавіць тую лазню – ужо як турыстычны аб'ект? Трэба на карце Беларусі як мага больш знаходзіць такіх гістарычных кропак.

### «Помнікі – гэта гістарычнае аблічча нашай сталіцы»

**– Каму вы хацелі б паставіць помнік у першую чаргу?**

– Шмат каму. Напрыклад, беларусу Казіміру Семяновічу – пачынальніку ракетнай справы ў Еўропе. Помнік ужо зроблены, я шукаю, дзе яго паставіць. Звярнуўся ў Віцебскі выканкам, а ў мяне пытаюцца: «Грошы ў вас ёсць?» – «Няма». – «То прыходзьце, калі будуць». Я схадзіў у Акадэмію навук – мяне там сустрэлі тым самым пытаннем. Гэта мой боль… Бо Семяновіч – гэта наш Цыялкоўскі. Я таксама хачу паставіць помнік удовам вайны. Бо жанчына падчас вайны і на заводзе снарады рабіла, і дзяцей карміла, і за плугам хадзіла. Я памятаю, як жанчыны на каровах аралі. Мы, дзеці, хацелі малака, а карова, пацягаўшы плуг, малака не давала… А нядаўна я вярнуўся з Зембіна, з радзімы мастачкі Надзеі Хадасевіч-Лежэ. Калі яна з Парыжа прыязджала ў Мінск, мы з дырэктарам Мастацкага музея Аленай Васільеўнай Аладавай (я тады працаваў у музеі) сустракалі яе ў аэрапорце, і я пры ёй быў у якасці ардынарца – футра насіў. Трэба абавязкова паставіць помнік на яе радзіме, у Зембіне, яна заслугоўвае. Шмат прац, і сваіх, і мужа Фернана Лежэ, яна падарыла Беларусі.

**– Ведаю, што і вы свае працы дарылі Слоніму. Там нібыта збіраліся адкрыць ваш музей.**

– Збіраліся, але так і не знайшлі памяшкання. І пыліцца мае працы недзе на складзе. Для Слоніма я зрабіў (з натуры) бюст пісьменніка і навукоўца Алега Лойкі, прапанаваў паставіць каля школы, дзе ён вучыўся. У адказ – цішыня.

**– Мне помніцца, як дэпутатка Алена Анісім публічна прапаноўвала Аляксандру Лукашэнку паставіць у Мінску помнікі стваральнікам БССР. Нешта гэта ў яго энтузіязму не выклікала. А на вашу думку – варта?**

– Гледзячы каму, тут трэба персанальна разглядаць. Праблема ў тым, што ў нас няма плана манументальнай прапаганды – якія помнікі, дзе і каму неабходна ўсталяваць. У Мінску шмат каму трэба паставіць помнікі. Таму ж Уладзіміру Караткевічу ці Ігару Лучанку. Ужо і праекты ёсць. Пагаварыў я з Міністэрствам культуры адносна Лучанка, кажуць: рана. Пазваніў у Мінскі абвыканкам – няма ўказанняў. Якія ім патрэбны ўказанні? Мы ж проста хочам абвясціць конкурс на стварэнне помніка! Я проста не разумею такога стаўлення да культуры. Помнікі – гэта ж гістарычнае аблічча нашай сталіцы. Прывяду вам такі прыклад. Скульптары Леў і Сяргей Гумілеўскія працавалі над помнікам Янку Купалу для Масквы. Прыехала адтуль прадстаўнічая камісія – архітэктары і скульптары. Пасля прыёмкі паказваем масквічам Мінск. Яны пахадзілі каля Дома ўрада і кажуць: «Сёння ўжо немагчыма так акуратна закампанаваць помнік з будынкамі, як зроблена ў вас з помнікам Леніну».

**– На тым помніку, дарэчы, збярогся надпіс на дарэформеннай беларускай мове. Пад крысом ленінскага паліто ацалеў мяккі знак, рэпрэсаваны ў 1933-м.**

– Таму ставіцца да падобных помнікаў трэба ашчадна. Прыбіраючы іх, мы прыбіраем і сваю гісторыю. Вось са мной выпадак быў. Дактары ў мяне выявілі пухліну і сказалі: заўтра аперацыя. Я прыйшоў у майстэрню, зачыніўся і спаліў вялікую частку свайго архіва. Я не верыў, што буду жыць… А цяпер сам сябе дакараю. Каб жа мне тады хтосьці даў па карку і сказаў: «Міско, кінь дурное! Ты знішчаеш гісторыю!»

**– І што вы спалілі?**

– Шмат прыватных лістоў, у тым ліку ад касманаўтаў, дзённікавыя запісы, праекты. Пасля аперацыі дактары мне сказалі: будзе добра, калі пражывеш тры гады. Дзякуй Богу, з таго часу прайшло ўжо 15 гадоў.

### «З мяне беларускую мову выбівалі – і ў войску, і ў інстытуце»

**– Нядаўна ў серыі «Жыццё знакамітых людзей Беларусі» выйшла ваша кніга «Зорны шлях», дзе сабраны ўсе асноўныя вашы працы. Вы задаволены зробленым?**

– Найперш я не задаволены кнігай. Катэгарычна! Калі ў Мінску праходзіў Касмічны кангрэс, маю кнігу павінны былі ўручыць у падарунак усе касманаўты. Але калі я паказаў той «Зорны шлях» кітайскаму касманаўту, жонцы Алега Навіцкага, ніхто нікога не пазнаў! Выдавецтва «Мастацкая літаратура» проста схалтурыла, надрукаваўшы фотаздымкі на няякаснай паперы. А яно ж выйграла тэндар! Не шкодзіла б разабрацца, куды яно патраціла атрыманыя ад дзяржавы грошы.

**– Цяпер у нас праходзіць перапіс насельніцтва. Вы якую мову назвалі роднай?**

– Вядома ж, беларускую! Помню, калі служыў у войску ў Забайкаллі, столькі давялося выцерпець абраз з-за беларускай мовы! Як з мяне літаральна выбівалі. І фактычна выбілі – і ў войску, і ў інстытуце. Неяк сястра папракнула мяне: «Ты ўжо ці па-беларуску гаворыш, ці па-руску. Абрыдла твая трасянка!» А мне заўсёды прыемна чуць беларускую мову. Да мяне часта заходзіць сябра Генадзь Аўсяннікаў – вось у каго мова натуральная, заслухаешся!

**– Паэт Ігар Шклярэўскі на старонках «Народнай Волі» неяк расказаў, як за сваю Дзяржаўную прэмію СССР пасадзіў лес на беразе Прыпяці. А вы помніце, як сваю патрацілі?**

– Не помню, гэта ж так даўно было. Да таго ж нас была цэлая брыгада – тры скульптары і архітэктар. Помню толькі, як мы паехалі да Ганны Купрыянавай і завезлі ёй на знак падзякі шыкоўную хустку. Мы тады жылі цудоўна, куды толькі не ездзілі! Сёння часам можна пачуць: у савецкі час мастакоў зацісквалі. Але ж тады Міністэрства культуры заказы давала, Саюз мастакоў дамовы падпісваў. А сёння – ні заказаў, ні дамоў, ні фінансавання. Кожны выжывае як можа. Скажам, нават мне было не пад сілу плаціць за майстэрню, і я ўсе свае працы разам з майстэрняй падарыў дзяржаве.

**– Гэта ж сотні прац! Гатовы музей.**

– А што было рабіць? Бывае, сядзіш у майстэрні – званок з Саюза мастакоў: «Вы чаму не заплацілі за майстэрню?» – «Грошай няма, бо заказаў няма». – «А нас гэта не хвалюе». Пакладзеш слухаўку і думаеш: хай бы інфаркт, каб хутка, каб не мучыцца... Пра якую творчасць у такіх умовах можна было думаць? Таму многія мастакі і адмовіліся ад майстэрняў.

### «Майстэрню маю пяць разоў абкрадалі»

**– Вам ідзе 88-ы год, але вы па-ранейшаму шмат працуеце. Што вам дапамагае захоўваць выдатную фізічную форму?**

– Праца. Я ў 8 гадзін раніцы ўжо ў майстэрні. Прывык, уцягнуўся. Часта даводзіцца бываць у творчых паездках па Беларусі. Днямі з палескага Моталя вярнуўся, у Стоўбцы збіраюся – будзем там помнік Якубу Коласу ставіць, вось ён у мяне пакуль на станку. Нават у выхадныя я ў майстэрні, бо часта бываюць экскурсіі, людзі заходзяць. Нядаўна прыйшоў чалавек: «Можна паглядзець?» – «Калі ласка». Пахадзіў, паглядзеў, я запрасіў на гарбату. Сеў і кажа: «Ну і нарабіў ён тут». – «Дык гэта я». – «Як? Гэта вы?! Ніколі не думаў, што сустрэнуся з жывым аўтарам у яго ж музеі!» Я дадому прыходжу толькі начаваць. Мне падабаецца атмасфера майстэрні, якая, між іншым, стаць у гістарычным месцы. Тут пад падлогай культурны слой да трох метраў. Добра, што ніхто не ведае, а то даўно раскапалі б і раскралі. Маю ж майстэрню пяць разоў абкрадалі. Забралі ўсе ўзнагароды, дакументы і дробныя працы. Быў такі час зладзейскі. Прыязджаеш з камандзіроўкі, а вокны выбіты. Аднойчы нават сцяну разбілі, каб залезці. Цяпер сігналізацыю паставілі, таму я спакойны.

**– Падчас нашай гутаркі ў майстэрню зайшоў чалавек, паклаў на стол апалец сала і сышоў. Хто гэта быў?**

– Гэта мяне землякі са Слонімшчыны так падтрымліваюць. То сала, то мёду прывезуць. Давайце пакаштуем слонімскага сальца. Як там у народнай песні спяваецца: «Еще сала, каб душа спявала!» І я хачу дапамагчы сваім землякам, але чым? Бібліятэку ў маёй вёсцы закрылі, клуб ліквідавалі, школу зачынілі. Пазарасталі сцежкі-дарожкі... Мне так балюча… Хоць бы крыніцы добраўпарадкаваць. Можа, папіўшы вадзіцы з тых крыніц, мы абудзімся і зразумеем, што на роднай зямлі трэба жыць дбайнымі гаспадарамі, а не бязроднымі прыблудамі.

**Міхась СКОБЛА.**



ПИСЬМО В РЕДАКЦИЮ

# Панельные страдания

В какой магазин ни зайдешь, видишь плакат «Купляйце беларускае!». И действительно, зачем отказываться от своего, если оно не хуже заграничного.

Руководствуясь таким принципом, в феврале 2015 года при замене газовой плиты наша семья остановила свой выбор на изделии Брестского унитарного предприятия «Гефест-техника». И, казалось, мы не ошиблись. Но вот спустя четыре года во время очередного ухода за плитой панель управления потрескалась на мелкие кусочки. Она из стекла, которое со временем потеряло свои качества. Кстати, раньше это была жестянка размером примерно 12 на 60 сантиметров, стоила она копейки и служила, можно сказать, бесконечно долго.

11 мая я обратился в Глусский РГС по поводу ремонта. Там мне объяснили, что заявку на панель нужно подавать на завод, а напрямую они не могут это сделать, только через их вышестоящую организацию, которая находится в Могилеве. И длиться это будет около месяца.

Прошел установленный срок. Обращаемся с вопросом, почему заказанной детали нет. Ответ: мы заявку отправили, а почему она не выполнена – не знаем.

По истечении двух с половиной месяцев я снова обратился к администрации горгаза, но ответ получил прежний. Кто-то из работников посоветовал заглянуть в сервисные магазины, что мы и сделали. Дочь, которая проживает в Минске, где-то в двадцатых числах июля сделала заказ в магазине, который находится по адресу: Партизанский проспект, 18а. Пообещали, что всё будет сделано в течение трех недель, при этом взяли десять рублей предоплаты. Но и на этот раз нас подвели. Вынуждены были позвонить на завод и рассказать всю историю с панелью для плиты. Где-то через неделю, к нашей радости, заказ все же был выполнен. Но нас ожидало очередное огорчение: панель привезли не той серии, и, соответственно, она не подходит к нашей плите.

Говорят, беда не приходит одна. Примерно в то же время сломалась стиральная машина LG корейского производства, которая служила более 14 лет. Вышло из строя запорное устройство дверки. Жена была в шоке, ведь она без нее как без рук – это ее главная помощница. Слава Богу, проблема разрешилась быстро. Обратившись в Минске в магазин на рынке, мы за шесть рублей купили новое запорное устройство, и машина опять заработала.

В нашей стране по дорогам ездят десятки моделей иномарок, которые, естественно, ломаются, но купить для них любую запчасть не составляет большого труда. В течение недели вам доставят всё, что нужно, из любой страны. А вот заменить панель газовой плиты оказалось не так-то просто. Как будто расстояние от Бреста до Глуска во сто крат больше, чем до Луны.

И как после всего этого нам понимать лозунг «Купляйце беларускае!»?

**Александр БОСЯКОВ, житель г.Глуска.**

Неабходна зрабіць больш строгім кантроль за паркаваннем аўтамабіляў шчыльна да бардзюраў або нават на тратуарах каля пад'ездаў, абсталяваных плаўнымі схіламі для выезду інвалідных вазкоў. Здараецца, што пад'езд бярэцца «ў каробачку», калі застаўлены і тратуар, і плаўны выезд. Правілы дарожнага руху забараняюць гэта, але ДАІ мякка рэагуе на званкі інвалідаў, у лепшым выпадку па нумары аўтамабіля вызначае тэлефон і паведамляе ўладальніку. Машыны вялікага начальства не трывожаць увогуле. Эвакуатары прысылаюць рэдка. У нашым раёне ДАІ чамусьці ахвотна прымяняе радыкальныя меры да машын з расійскімі нумарамі, у іншых – наадварот: паважаюць сяброў з Саюзнай дзяржавы. Уладальнікі аўтамабіляў, па-хамску загарадзіўшы выезд, напышліва прапаноўваюць інвалідам тэлефанаваць па мабільным нумары, што выстаўляецца на картцы за шклом нават у працоўны час, калі ўвесь двор свабодны. Асабліва гэтым злоўжываюць уладальнікі дарагіх марак, якія любяць утульненька паставіць свае любімыя цацкі далей ад ажыўленых пляцовак. Тэлефоны даюць звычайныя, платныя, да бясплатных з інтэрнэт-месенджэрамі яшчэ не дадумеліся. У некаторых краінах практыкуюцца ў такіх выпадках трывожныя бясплатныя кнопкі – alarm button, якія падаюць сігнал вадзіцелю пакінутага аўтамабіля на мабільны тэлефон.

Вельмі пажадана даваць права бясплатнага праезду ў грамадскім транспарце суправаджальніку інваліда-вазочніка, таксама калі ён едзе адзін, без хворага. Колькі прыходзіцца ездзіць сямейнікам інваліда па аптэках, паліклініках, спецыялізаваных крамах, майстэрнях, сацыяльных цэнтрах, банках! Сам жа інвалід фактычна не карыстаецца правам бясплатнага праезду. У горадзе гэта адбываецца эпізадычна. Калі ж казаць пра звычайныя электрычкі, такое права застаецца толькі на паперы. Вазочнік ахвотна пакарыстаўся б бясплатнай электрычкай, каб заехаць на тую ж савецкага часу сціплую дачу. Але ж туды паднясца? За праезд у эканом-класе з гарызантальнай рухомай уваходнай пляцоўкай прыходзіцца плаціць поўную цану.

Трэба павялічыць колькасць бясплатных карыстанняў інвалідным аўтобусам з пад'ёмнікам. Цяпер гэта дазваляецца рабіць да чатырох разоў на месяц. Гэта не заўсёды атрымліваецца, бо колькасць аўтобусаў мізэрная. У сацыяльным цэнтры Цэнтральнага раёна такі толькі адзін, праўда, у добрым стане. Пра аўтобус, які збірае па ўсіх раёнах горада вазочнікаў і нерухомых хворых для дастаўкі да стаматолагаў, я ўжо пісаў. Інвалід быў бы не супраць і ў тэатр з'ездзіць. У Германіі я бачыў у тэатрах, цэрквах, ратушах спецыяльна абсталяваныя ў пярэдніх радах месцы для інвалідаў у вазках. Нашым, асабліва ляжачым, застаюцца толькі кніжкі, крыжаванкі, шахматы, шашкі ды тэлевізар. Някепска было б падумаць і пра цэны білетаў для інвалідаў на публічныя відовішчы.

### Давайце жыць яшчэ весялей…

Амаль месяц таму па тэлевізары паказвалі, як у нас адзначаюць Дзень пажылых людзей. У кадры рытмічна рухаліся скандынаўскай хадой шчаслівыя пенсіянеры, правільна трымаючы ў руках апорныя кійкі. Члены БРСМ у фірмовых куртках раскавалі пра свае дзейнасць на карысць сталых грамадзян. Перад гэтым паказвалі шчаслівых немаладых адпачывальнікаў санаторыя, якім сын прэзідэнта прывёз цукеркі і кавуны. Спявалі зладжана калякастровую песню народнага артыста Расіі Алега Міцяева «Как здорово, что все мы здесь сегодня собрались…». Кавуны тыя былі сабраны самім кіраўніком дзяржавы ў Драздах разам з прыгажунямі службы прэзідэнцкага пратакола…

Прапануючы кандыдатам у парламентарыі і прэтэндэнтам на прэзідэнцтва правесці ў Мінску на Кастрычніцкай плошчы перформанс: сабраць з усяго Мінска (а можа, і з абласных цэнтраў, мястэчак і аграгарадкоў) інвалідаў-вазочнікаў, у якіх няма дома ні пандусаў, ні пад'ёмнікаў, ды паабяцаць у выпадку свайго выбрання на працягу пэўнага тэрміну распрацаваць некалькі модуляў пад'ёмных дарожак і за паўгода перавесці іх у стадыю «жалеза». Пакарыстацца гэтай ідэяй могуць усе кандыдаты ў дэпутаты. Каб прадэманстраваць сваю ахвярнасць і любоў да народа, можна яшчэ зрабіць фотастэнд і паабяцаць прадаць усё, што там адлюстравана, на карысць інвалідаў-вазочнікаў. Гэта могуць быць дачныя дамкі, аўтамабілі, матацыклы, квадрацыклы з уласнага гаража, веласіпеды, лыжы, хакейная амуніцыя, спартыўныя касцюмы. Гэта будзе пэўны сігнал пра новы трэнд у бюджэтнай палітыцы дзяржавы. Упэўнены, некалькі дадатковых тысяч галасоў арганізатару перформанса будзе гарантавана.

**P.S.** Калі гэты тэкст ужо быў перададзены ў рэдакцыю, адбыліся тры падзеі.

У Мінску прайшоў яшчэ адзін гучны міжнародны сход – «Мінскі дыялог», які, паводле сцвярджэння нашых дзяржаўных журналістаў, «вылучае Беларусь у элітны клуб дзяржаў, дзе робіцца сучасная гісторыя … дзе СМІ ўсяго свету адзначаюць выдатныя ініцыятывы кіраўніцтва нашай краіны». Гэта ўжо цягне на Нобелеўскую прэмію.

Кіраўнік нашай дзяржавы падчас беларуска-ўкраінскай сустрэчы ў Жытоміры агучыў яшчэ адну сваю мару – правесці сумесна з братнім паўднёвым суседам Алімпійскія гульні.

І яшчэ адна падзея, для мяне – інтымна-алегарычная. Са сталічнага ўніверсітэта, дзе мая жонка вучылася і адпрацавала да пенсіі, прыйшло віншаванне прафсаюзнага камітэта ад імя калег па працы з Днём настаўніка, акуратненька напісанае выразна жаночай рукой. У канверце разам з паштоўкай «Любімаму настаўніку» ляжаў засушаны кляновы лісток. Я не сярдую на прафкам універсітэта. Адкуль ім ведаць, што іх былой калегі ўжо чацвёрты месяц няма на гэтым свеце? Я ім пра гэта не паведамляў. Гэта гора – маё. Алегорыя для мяне тут у тым, што «маленькі чалавек» у нашай краіне, як той жоўты лісток, гнаны ветрам, застаецца толькі ў памяці блізкіх. Дзяржаўная памяць на афіцыйных стэндах – халодная. І больш толькі для мёртвых. Любіць трэба жывых.

ВІНШАВАННЕ

# На вяршыні!

*Зорка Купалаўскага тэатра народная артыстка **Зоя Белахвосцік** толькі што адзначыла свой юбілей. Лічба самавітая, ды ці варта яе згадваць? Галоўнае, што талент актрысы дагэтуль не згубіў сваёй яскравасці, маладой непасрэднасці, творчай насычанасці. Можна сказаць: ахоўваецца Нябёсамі.*

Зоя Белахвосцік сыграла больш за дзевяноста роляў у родным тэатры. Яе творчае крэда – быць прыстойным чалавекам, таму што сцэна – гэта рэнтген: «Ты абавязаны ўсё жыццё працаваць над сабой». З Купалаўскім тэатрам актрысу звязваюць не толькі гады творчасці, але і моцныя сямейныя карані. Тут служылі яе дзед – народны артыст Глеб Глебаў, бацька – народны артыст Валянцін Белахвосцік, муж – акцёр, а цяпер вядомы рэжысёр, заслужаны дзеяч мастацтваў Аляксандр Гарцуеў. Цяпер разам з ёй на сцэну выходзіць дачка – таленавітая актрыса Валянціна Гарцуева. Уяўляеце, якая моцная акцёрская дынастыя! І Зоя Валянцінаўна на сённяшні дзень – самы яркі яе прадстаўнік.

Зоя Белахвосцік вельмі беражэ свой дар: яна адмаўляецца ад рэкламы, вельмі рэдка здымаецца ў тэлесерыялах, але вось у беларускім дэтэктыве «Унутры сябе» (2018) рэжысёра Сяргея Талыбова сыграла адну з галоўных роляў. Пры тым што сюжэт дэтэктыва сцёрся з маёй памяці, ролю Белахвосцік – без адзінага слова! – я памятаю да гэтага часу. Вочы, пластыка! Багатае ўнутранае жыццё... Здаецца, нават сама актрыса засталася задаволенай сваёй працай. А дагадзіць Зоі Белахвосцік вельмі цяжка, у яе да мастацтва «гамбургскі рахунак». Як бы думаю: шкада, што яна не працуе ў журы Нацыянальнай тэатральнай прэміі – не было б столькі «падлогаў», як я называю ўзнагароды, якія, бывае, раздаюць спектаклям ці то па недахопасці, ці то па знаёмстве. А можа быць, наогул з жалю...

Зоя Белахвосцік – актрыса яркага дару, яна даўно стала прымай Купалаўскага тэатра. І гэта бясспрэчна. Якую цану ёй даводзіцца плаціць за жыццё на вяршыні? Але ў таямніцы душы сваёй яна не пускае нікога. Таму лепш глядзіце спектаклі з удзелам актрысы, і вы зразумееце, што дарма славы яна не бярэ.

З днём нараджэння, паважаная Зоя Валянцінаўна!

**Алена МАЛОЧКА.**




КІНОФЭСТ

# Болгарский «Отец» даст старт белорусскому кинофестивалю

Самое крупное и статусное событие в сфере кино в Беларуси – Минский международный кинофестиваль «Лістапад» – откроется в кинотеатре «Москва» 1 ноября. Но какой бы торжественной ни была церемония открытия, сколько бы знаменитых артистов ни прошло по красной дорожке (а их ожидается около полусотни, как зарубежных, так и отечественных) – самое главное внимание в этот вечер будет отдано все-таки фильму, который даст старт фестивальным просмотрам. В этом году выбор директора программ игрового кино Игоря Сукманова пал на главного призера кинофестиваля в Карловых Варах болгарский фильм «Отец». Эта кинолента получила в Чехии Гран-при «Хрустальный глобус», а следом – приз за лучшую режиссуру и приз зрительских симпатий Сахалинского МКФ «Край света» (Россия).

Фильм создан мэтрами болгарского кинематографа – режиссерами Кристиной Грозевой и Петаром Вылчановым. Их картины несколько раз принимали участие в нашем кинофестивале: драма «Урок» в 2015 году получила «Золата Лістапада», фильм «Слава» в 2016 году удостоился приза зрительских симпатий.

– Картины Грозевой и Вылчанова – всегда одно из важнейших событий «Лістапада». Их киноленты – это сочетание кино фестивального и зрительского, и «Отец» в этом плане не исключение. Это образец кино, которое рассказывает о семейных узах, бытовых неурядицах, любви и вере в чудо. Лента трогательная, мистическая, в ней много юмора и иронии, а также весьма неожиданная концовка, – прокомментировал Игорь Сукманов.

Открытие кинофестиваля пройдет, как всегда, в кинотеатре «Москва». По старой киношной традиции, тарелку о штатив «на удачу» разобьет Геннадий Давыдько – по крайней мере в пресс-центре надеются, что бывший актер и директор Купаловского театра, а ныне кандидат в депутаты не откажется от этой почетной роли.

**Виктория ДРОЗД.**

ПАМЯЦЬ

*29 кастрычніка ў мемарыяле Курапаты пройдзе «Ноч расстраляных паэтаў». Гэта не акцыя і не мітынг, а ўшанаванне памяці: больш за сто паэтаў, пісьменнікаў і грамадскіх дзеячаў былі расстраляны ў жахлівую ноч з 29 на 30 кастрычніка 1937 года.*



# І тады Курапаты, дарога смерці, станецца для нас дарогай жыцця

Мяне не адпускае перажыванне: навошта мы трэці год стаім там, у Курапатах? У мяне ўжо і натхнення няма змагацца за іх, і сілы даўно сышлі. І я іду на апошніх высілках і малюся: Божа, калі ўжо Ты ўсё гэта скончыш?! Бо так не хачу я кожную пятніцу ісці туды. Я хачу ўзяць сям'ю і, як кожны нармальны беларус, паехаць пасля працоўнага тыдня на лецішча. Але я іду і стаю. Што трымае мяне на гэтай Курапацкай дарозе? – задаю я пытанне сам сабе. І прыходжу да разумення: трымае мяне на гэтай дарозе ўпэўненасць у тым, што сёння ў Курапатах Творца гісторыі да чагосьці рыхтуе наш народ. Рыхтуе да таго, што мы недарабілі, калі выйшлі пасля 70-гадовага тэрміну з турмы народаў.

Тады, напрыканцы 1980-х – на пачатку 1990-х, было шмат зроблена, але не хапіла моцы на галоўнае – правесці дэкамунізацыю. Многія тады лічылі, што няма розніцы, як называюцца вуліцы і каму стаяць помнікі, – абы дабрабыт быў.

У Бібліі ёсць цікавая прыпавесць, якую Ісус прамаўляе сваім сучаснікам. Калі злы дух выйдзе з чалавека, то праз нейкі час вяртаецца, каб паглядзець на свой былы дом. І калі знаходзіць яго незанятым, то бярэ шчэ сем злейшых за сябе духаў і пасяляецца ў былым доме нанаў – і стан другое горшае для чалавека за першае. І далей Хрыстос кажа галоўнае: тое ж самае будзе і з родам гэтым. І ў якой нармальнай краіне метафары такой можна было б і не зразумець, але ў Беларусі яна відавочная. Як нам не было справы да вуліц, помнікаў і ідэй – прыйшлі да ўлады сілы, якія вярнулі не толькі «свята» 7 лістапада, а рэанімуюць нават праклятае самой кампартыяй імя Сталіна.

Мы глядзім на ўсё гэта спакойна, а потым пытаемся: а чаму мы жывём так, як жывём? Ці не таму, што ў Беларусі не адбылося асэнсавання злачынстваў камунізму і пакаяння ў грахах гэтай крывавай ідэалогіі? Як вядома, на Нюрнбергскім трыбунале фашызм быў асуджаны як злачынная ідэалогія за 19 мільёнаў забітых ва ўсім свеце. Камуністы ж толькі ў сябе дома, толькі сваіх суграмадзян знішчылі 19,5 мільёна (В.В.Эрліхман «Страты народанасельніцтва ў XX ст.», даведнік, М., Выдавецтва «Руская панарама», 2004). У Германіі злачынствы нацызму асэнсавалі і ў іх пакаяліся, у Беларусі – не. Разбомленая ўшчэнт Германія праз 75 гадоў – чацвёртая эканоміка свету, у Беларусі праз 25 гадоў вяртання ў Савецкі Саюз трактарамі выдзіраюць крыжы са змучанай Курапацкай зямлі.

Таго ж дамагаліся камуністы: што яны толькі ні рабілі, каб мы страцілі памяць! Савецкі генацыд і этнацыд Беларусі не паддаецца дакладным ацэнкам. Камуністычная палітыка вынішчэння нацыянальнай эліты мела планамерны характар і рэалізоўвалася ў некалькі этапаў: 1929–1931, 1932–1934, 1937–1938, 1939–1941, 1944–1946 гады. З 238 літаратараў эпоху Сталіна перажылі толькі 20 (!). Расстрэльвалі амаль усіх, хто меў якое-кольвечы дачыненне да беларускага нацыянальнага руху, асветы. Страцілі жыццё 90% работнікаў першай Акадэміі навук, большасць выкладчыкаў БДУ. З 12.000 настаўнікаў расстраляны 4000, і гэта сцвярджае даследчык эпохі савецкага тэрору Леанід Маракоў, «стралялі пераважна толькі выкладчыкаў беларускай мовы і літаратуры, гісторыі. Настаўнікаў дакладных навук чамусьці не кранালі». Толькі ў адну ноч з 29 на 30 кастрычніка 1937 года спецслужбы расстралялі 132 (!) прадстаўнікі беларускай інтэлігенцыі – літаратараў, навукоўцаў, дзяржаўных дзеячаў. Такога злачынства не ведае гісторыя ніводнай еўрапейскай дзяржавы.

І яны мелі ўсе падставы быць перакананымі, што нас знішчылі, што Курапаты сталіся магілай не толькі паэтаў, а ўсёй Беларусі. Але Бог кажа людзям: «Я маю для вас планы на дабро, а не на зло, на жыццё, а не на смерць». І вось магіла Беларусі, – якая адкрылася праз артыкул «Курапаты – дарога смерці» – абудзіла нацыю. Шмат было тады зроблена, але не былі мы гатовы да галоўнага: Нюрнберга над камунізмам. Усвядоміць неабходнасць гэтай дзеі трэба сёння. Цяпер толькі ад нас залежыць, застанёмся мы, абуджаныя, у гэтай магіле ці выйдзем вонкі.

29 кастрычніка а 20-й гадзіне мы сустракаемся ў Курапатах, каб ушанаваць памяць нявінна забітых паэтаў і пісьменнікаў. Каб на надыходзячым гістарычным пераломе народ наш асэнсаваў злачынствы камунізму і пакаяўся ў іх. І тады Курапаты, дарога смерці, станецца для нас дарогай жыцця. Як калісці дарога на Галгофу, дарога смерці, сталася для чалавецтва дарогай жыцця.

**Зміцер ДАШКЕВІЧ.**

К ОТВЕТУ!

# В Солигорске возбудили уголовное дело по факту клеветы в интернете

Некий аноним в сентябре 2019 года разместил на электронных сайтах негатив, касающийся ОАО «Беларуськалий», а также руководителя ООО «Солигорскспецмонтаж» Н.В.Работаева. Последнего он вообще обвинил в совершении преступления. Солигорские следователи провели проверку сообщения анонима и пришли к выводу, что сведения, которые тот выложил в интернете, заведомо ложные, клеветнические. Измышления направлены на то, чтобы опорочить ОАО «Беларуськалий» и директора ООО «Солигорскспецмонтаж».

По результатам проверки Солигорский районный отдел Следственного комитета возбудил уголовное дело по ст.188 УК РБ «Клевета».

**Лариса НАСАНОВИЧ.**

СМОТРИТЕ, КТО УШЕЛ

# Огромная утрата для культуры Беларуси…

*Врачи говорили ему: завершайте дела. Но известный композитор до последнего не верил, что болезнь не отступит. Пару недель назад Олег Молчан с супругой Ириной Видовой улетели в Швейцарию – надеялись, что там помогут. Но, видимо, было уже слишком поздно. 26 октября Олега Молчана не стало…*

*«В последний раз моя любовь*
*уплывает в облака, где свободно и легко...*
*И, не тая влюбленных глаз,*
*лишь только ты и я там высоко...»* – написала Ирина Видова в «Фейсбуке».

Онкологию у Олега Молчана выявили, можно сказать, случайно. Было это десять лет назад. После первого курса лечения казалось, что болезнь ушла. Однако три года назад случился рецидив. А летом этого года – еще один. В июне как раз в день своего концерта ко Дню медицинского работника Олега Молчана госпитализировали в РНПЦ онкологии и медицинской радиологии им.Александрова, где он пробыл три месяца.

Умирать Олег Молчан не собирался, планировал свой юбилейный концерт – весной следующего года ему исполнилось бы 55 лет. Теперь, вероятно, это будет концерт его памяти…

*«Огромная утрата для культуры Беларуси,* – комментирует печальную новость солист легендарных «Песняров» Валерий Скорожонок. – *Его песни, особенно «Малітва», будут жить вечно. Лично я уважал его еще и за то, что Олег, несмотря ни на что, в трудные времена раскола «Песняров», принял сторону Владимира Георгиевича Мулявина и стал его творческой поддержкой. Вечная память и Царствие Небесное!..»*

Прощание с известным композитором пройдет в Белгосфилармонии.

*ИЗ ЛИЧНОГО ДЕЛА*

Олег Молчан – президент Евразийской конфедерации обществ правообладателей, глава Авторского совета Национального центра интеллектуальной собственности Республики Беларусь, пианист, продюсер, лауреат множества международных и национальных премий и конкурсов.

Пик творческой карьеры Олега Молчана пришелся на время сотрудничества с государственным вокально-инструментальным ансамблем «Песняры». Самая известная песня Олега Молчана – «Малітва».



**Олег Молчан и Ирина Видова всегда были вместе.**

**Даша ПАВЛОВСКАЯ.**

ЗДАРЭННЕ

# 83-гадовая жанчына два дні блукала па лесе…

Ва Уздзенскім раёне знайшлі 83-гадовую жыхарку вёскі Чырвоны Клін, якая за два дні да гэтага пайшла ў лес па грыбы і знікла.

Яе шукалі супрацоўнікі МНС, валанцёры выратавальнага атрада «Анёл», дапамагалі і мясцовыя жыхары. Усяго ў пошуках бабулі ўдзельнічалі больш за 40 чалавек.

А першымі ўбачылі пажылую жанчыну ў 11 ранку 27 кастрычніка рабочыя прадпрыемства па здабычы і перапрацоўцы торфу. Азяблая бабуля ў мокрай вопратцы сядзела на беразе меліярацыйнага канала. Яна распавяла, што пайшла ў лес каля 14 гадзін 25 кастрычніка, заблукала, а калі выбралася з лесу, уздоўж якога працягнуўся канал, перасекла яго ўброд па горла ў вадзе.

83-гадовая пенсіянерка ад медыцынскай дапамогі адмовілася, запэўніўшы, што адчувае сябе добра. А што змерзла – дык дома сагрэецца.

**Ларыса НАСАНОВІЧ.**

ЖИЗНЬ ЛЮДСКАЯ

# Бабушка из нашего подъезда

*Она часто сидит возле подъезда на скамейке. Говорит, что так отдыхает. Передвигаться-то ей очень трудно даже при помощи двух палочек – уже лет десять сильно согнута спина. Вот и выручает ее скамейка у подъезда, на которой можно скоротать время, подышать свежим воздухом. И хоть как-то отрешиться от горестных воспоминаний – год назад у нее умер сын. А также хоть немного притушить чувство одиночества.*



Первый разговор с бабушкой, помнится, состоялся у меня, когда я вышла покормить дворовых кошек. Среди них одна особенно заметная – весь подъезд зовет ее Рыжуха. Перепадает ей от меня больше всех.

– *Мой сын ее тоже любил, нянчился с ней*, – сказала както бабушка, когда я, вывалив в мисочку содержимое пакетика «Феликса», стала звать дремавшую под кустом Рыжуху.

Слово за слово, и я поняла, кому бабушка является матерью. С ее сыном я при случайных встречах перебрасывалась фразой-другой. То о печальной судьбе бездомных животных и необходимости приютов для них, то о каких-то событиях в стране или в нашем регионе, то, помню, говорил он, что ему нравится «Народная Воля», и предлагал поднять на страницах газеты одну из волнующих его проблем.

А вскоре после этого я поговорила с бабушкой более обстоятельно. Мария Гавриловна Бурак (в девичестве Ковалева), 91 года от роду, рассказала о своей жизни. Назвала ее самой обычной: мол, ничего особенного в ней не было. Но в этом «ничего особенного» есть живое свидетельство того времени, которое уже стало историей, и свидетельство того, как жили люди в войну, после войны, в шестидесятые годы… И как приходится мыкаться, когда ты одинок, а уже старость, болезни…

## Дитя войны

Родилась Мария Гавриловна в деревне Матченки Ельненского района Смоленской области. Мама ее умерла от менингита, когда ей было 7 лет. От менингита и сейчас, бывает, умирают, а тогда да еще вдали от хорошей даже для того времени медицины эта болезнь была почти неодолима. В семье Маша была самой младшей из пятерых детей. Ее отец, Гавриил Никонович, больше не женился, по словам Марии Гавриловны, боялся, что с мачехой детям будет плохо. Моя собеседница сказала, что ее отец был председателем колхоза. Но жили они все равно скудно. Люди трудились в колхозе не покладая рук за трудодни, при расчете в конце года выходило немного. Ягоды, грибы летом, огород, рыба, которую в реке наловишь, – все это было большим подспорьем для сельских жителей. Школы в деревне не было, дети из Матченок ходили учиться в соседнюю за три километра. Обувка – лапти. Одежда плохонькая, преимущественно домотканая. Магазина в их деревне тоже не было – ходили в соседнюю деревню Сос. Редко ходили – деньги живые появлялись, только когда удавалось на рынке продать чтото со своего подворья или ягоды лесные. Да и в самом магазине товаров раз-два и обчелся.

На вопрос, было ли электричество до войны в их деревне, в школе, которая находилась в соседней деревне, она ответила отрицательно.

Началась война. На фронт ушли отец, два брата и старшая сестра Прасковья (она была на фронте медсестрой). Мария и сестра Нина остались одни. Ей было 13, Нине – 15 лет.

– *Ой, и тяжко было нам! Бои сильные шли в 1941 году. Немцев в сентябре Красная армия из деревни сначала выкинула* (речь идет о Ельнинской наступательной операции Резервного фронта Красной армии по ликвидации Ельнинского выступа, в результате которой г.Ельня и окрестные деревни были ненадолго освобождены от гитлеровских захватчиков. – **Л.Н.**)*, а затем опять немцы пришли и были, как помню, до конца лета 1943 года, когда уже нас окончательно освободили.*

**– Как вам жилось при немцах?**

– *Плохо. Забрали нашу хату, нары в ней понастроили – какоето их подразделение в нашей деревне стояло. Нам с сестрой, правда, на печке на кухне разрешили спать. Нет, с дурными намерениями к нам, девочкам, немецкие солдаты не лезли. Чего не было, того не было. А немецкий врач даже мне ногу вылечил, когда сильное нагноение было. И второй раз, когда нас захватили, тоже одно время в нашей хате немцы стояли. Старшая сестра Прасковья, та, которая медсестрой на фронт ушла, однажды вдруг появилась. Насколько помню: попала их часть в окружение, откуда вырывались, кто как мог. Несколько дней жила с нами. А она красивая была. Офицер немецкий заприметил ее и ночью в нашу хату пришел, стянул ее с печки, где мы втроем спали, стал приставать. От шума проснулись немцы в комнате. Начали кричать, возмущаться на своем языке. А потом вытолкали этого офицера из хаты. А сестра Прасковья через несколько дней после этого к партизанам ушла. Немцы, когда второй раз пришли, уже грабить народ начали, зерно забирали у людей, другую еду. И партизанам тоже еда нужна была. Мы курей партизанам отдавали, молоком от коровы с ними делились.*

*Одежды какой, обуви – нигде ничего не найти. Бедствовали мы с сестрой в оккупации совершенно в этом плане. Помню, что в холод хоть плачь – босые, раздетые. Однажды немцы и полицаи собрали женщин, девушек, подростков, согнали в церковь – собирались отправить в Германию на работу. А у одной из наших знакомых, которая оказалась с нами в этой церкви, сын был полицаем. Он пришел за матерью, а мы с сестрой его уговорили, чтобы и нас из церкви забрал. Но сестра Нина потом все равно попалась – увезли ее в Германию на работу. Вернулась уже после войны. Работала в Неметчине на ферме у одной семьи. Правда, говорила, что хозяева незлобные у нее были и в голоде не держали. Даже что-то из вещей привезла с собой.*

*Бои, когда нас освобождали, были страшные, люди от бомбежек то в бункерах, которых много было вырыто за войну, прятались, то просто в какой яме. Если в доме спать ночью оставались, то на полу спали не раздеваясь. Казалось, что на полу безопаснее. После боев, которые у нас шли в 1943 году, поля усеяны были мертвыми солдатами. Что было посеяно весной в землю, то бомбами и снарядами повывернуто. А сколько детей подорвалось позже на оставленных от боев минах!*

*Моя сестра Прасковья партизанила, пока не выгнали захватчиков из нашего края, а потом вернулась в деревню. Нашей хаты уже не было – ее немцы разобрали для своих нужд, и мы не знали, где жить, скитались. И тут нас нашел отец. Его комиссовали из армии вскоре после освобождения Смоленщины и отправили на работу в Рязань. Туда же он забрал и нас с Прасковьей. В Рязани отцу выделили комнату в общежитии. Он работал конюхом в одном из учреждений.*

## Второе несла домой, и из него варили суп для всех

Отец, как рассказала Мария Гавриловна, отправил ее учиться в школу. Определили ее в 8-й класс, хотя до войны закончила только шесть классов. В общем, с учебой в школе у нее не заладилось. К тому же хотелось все время есть, а еды катастрофически не хватало. И отец устроил ее в швейное училище, учеба в котором имела на то время большое преимущество – учащимся давали бесплатный обед.

– *Я первое съедала в училище, а второе несла домой, и там мы из него варили суп для всех нас. Голодно было в то время. Лебеду, помню, ели.*

Училище Мария закончила хорошо, ее даже оставляли работать в нем. Но отца вскоре после окончания войны потянуло в родную деревню. И он уговорил Марию поехать с ним. Прасковья к этому времени уже перебралась в Беларусь.

– В деревне у нас ни кола ни двора. Поначалу угол у кого-то снимали. Я стала заниматься тем, что шила и перешивала людям одежду; в основном на перешивку несли шинели.

С отцом, по ее словам, они построили маленькую хатку. Вернулись из армии братья. Один из них быстро женился, привел в хатку жену, и всем просто было уже не разместиться.

## По судьбе ли, по собственной воле

Мария уехала к сестре в Клецкий район, на племзавод «Красная Звезда». У Прасковьи к тому времени была уже семья, ребенок. Работала она в детском саду медсестрой, а Марию устроила в детский сад прачкой.

– Стирали тогда руками, и было тяжело. К тому же я оказалась брезгливой. Меня буквально выворачивало, когда стирала пеленки – ведь детей тогда брали в ясли с трех месяцев.

Ей удалось перейти санитаркой в здравпункт. Денег платили мало, а девушке хотелось приличных платьев, кофточек. Да и о замужестве подумывала, надо было хоть немного денег подкопить. Мария купила ручную швейную машинку – шила себе, шила на заказ.

В 1954 году она вышла замуж. Муж Иван работал на племзаводе столяром. Зарплаты, вспоминает женщина, у них были низкие. Мать мужа не хотела, чтобы сын женился на Марии, так как в ее понимании девушка была бедной. Но сын не послушал мать. И та невестку невзлюбила. Какое-то время после рождения первенца они жили с родителями мужа в деревне недалеко от поселка.

– *Свекровь требовала, чтобы я поскорее на завод консервный устроилась. Работа там была посменная. От деревни нужно было идти до автобуса, который подвозил до завода 3 километра, в темноте возвращаться со второй смены. Я отказалась. Свекровь сказала сыну: вези ее куда хочешь, в моем доме она жить не будет. Муж выпросил у родителей старую хатку, стоявшую на задворках, разобрал ее, мы перевезли материал в совхозный поселок, и там он из этих бревен складывал нам жилье. Что-то новое добавлял. Но до рождения нашей дочери закончить постройку не успел. Привез меня из роддома с крохой на руках – ни потолка, ни пола в хате еще не было.*

Свекровь тяжело заболела, помирилась с сыном и невесткой, стала звать жить к себе в недавно построенный просторный дом. Помимо нового дома у свекрови со свекром в деревне был еще один. Но они к родителям мужа не поехали. Когда мать мужа умерла, его отец отдал ему новый дом, сам вернулся доживать в тот, другой. Сын перевез подаренный дом в поселок. Наконец-то их семья из четырех человек могла не тесниться. Жили, как большинство семей в поселке. Дети вырастали. Дочь Марии, закончив школу, вышла замуж, уехала в Смоленск.

Потом Мария оказалась в Солигорске. Переехала вслед за сестрой Прасковьей. Сына Прасковьи после окончания института направили в город шахтеров по распределению. Прасковья с мужем, побывав в молодом городе, решила тоже в нем обосноваться.

– *Прасковья рассказала мне, какой Солигорск перспективный, что можно устроиться на работу, получить квартиру. Звала: хватит свиньям хвосты крутить. Мол, ты по-другому себя почувствуешь, жизнь будет намного интереснее. Я съездила, город мне очень понравился. Тем более что всегда хотела жить в городе. Муж из своего дома уезжать отказался. Ну а я решилась и уехала. И не жалею, город полюбила всей душой. Сестра Прасковья Ковалева в Солигорске в почете жила как ветеран. Ну а я как самый обыкновенный рядовой человек. Но тоже неплохо и с настроением, как вспоминается теперь. Устроилась на работу, жила в общежитии и получила через 9 лет однокомнатную квартиру. Правда, незадолго до того, как выделить мне квартиру, в профкоме вдруг заявили, что будут снимать меня с очереди на жилье. Мол, у тебя в совхозе дом есть. А какой это мой дом? Это дом мужа, а я уже сколько лет не жила в этом доме. Работала в Солигорске, в общежитии ютилась. В Минск пришлось не однажды ездить, по кабинетам там ходить, чтобы оставили меня в очереди. Добилась. И сын мой в Солигорске обосновался. Работал сварщиком до пенсии.*

## Горький привкус одиночества

Мария Гавриловна говорит, что у сына Михаила не все сладилось в личной жизни. Трое детей: один, от первого брака, живет в Минске, двое, от второго, тоже давно взрослые – в Солигорске. Со второй женой в последние годы Михаил, по словам матери, практически вместе не жил, хотя официально они и не разводились.

Детей Михаил, рассказывает женщина, всегда любил, и семейные ценности для него немало значили. Одному сыну от второго брака квартиру оставил – ту, которую получил от производства. Второй сам квартиру построил, но и отец в стороне не был. И ей, своей матери, он всегда помогал, участлив был. Да, бывало, что выпивал, стрессы так гасил. Конечно, лучше иначе эти стрессы гасить, каким-нибудь интересным и полезным увлечением, к примеру, но не у всех получается.

– *Ко мне придет, поговорим мы с ним по душам, что ни попрошу, сделает, в магазин сходит, а нередко в последние годы и кушать мне готовил. Ведь я вижу совсем плохо – инвалидность по зрению, первую группу недавно получила. Обследование быстро провели, врачи внимательно ко мне относились. Только хорошее могу сказать о медиках в этом плане. Но, когда инвалидность дали, сказали, что через год телефон мне специальный мобильный выделят. А почему только через год? В моем возрасте год ждать – это уже много, вполне возможно, что не дождусь. И спина у меня, видите какая. Пока был жив сын, у меня сил было больше. И я о нем заботилась как могла. Знаете, как это важно – иметь того, о ком можно заботиться!*

*Уже почти год прошел, как умер сын, а мне лучше не становится. Дома сижу, плачу, все о нем вспоминаю, все о нем напоминает. Ведь и умер он у меня в квартире. Внезапно. Врачи определили, что от инсульта. Действительно, нет ничего страшнее, чем матери пережить своего ребенка. Мне жизнь после этого совсем не в радость.*

Я интересуюсь, кто занимался похоронами Михаила.

Она отвечает, что его жена и сыновья. И здесь ей их упрекнуть не в чем. Все хлопоты и материальные расходы они взяли на себя.

Добавляет, что не привыкла в жизни раскисать. Но принять смерть сына до сих пор не может. Надо отвлекаться как-то, но, когда глаза подводят и ходить тяжело, возможностей отвлечься старый человек не особо найдет. Ни читать, ни шить, ни телевизор толком посмотреть.

Я спрашиваю, кто ей помогает из родных теперь с бытовыми вопросами. Внуки?

Она осторожно отвечает, что внуки – не очень. Но вот племянник, сын сестры Прасковьи (Прасковья Гавриловна ушла в мир иной), тот да, участие в ее жизни принимает, на просьбы откликается. И соседи помогают. Из магазина продукты носят, про здоровье интересуются.

Она добавляет, что хочет поехать к дочери в Смоленск. И тут же добавляет в раздумье:

– *А может, и не поеду еще. Дочь на пенсии, но продолжает работать. Иначе трудно прожить. Занята она будет целыми днями, и мне придется все так же одной сидеть. Так здесь хоть своя квартира, двор знакомый, подъезд, соседи внимательные, я к ним привыкла. А там ведь всё чужое.*

Спрашиваю, хватает ли ей пенсии. Отвечает: вполне хватает. По ее словам, пенсия у нее немногим больш 500 рублей.

– Что бы вы посоветовали людям, исходя из своего возраста, мудрости и пережитого?

– *Не ссориться по пустякам, беречь и уважать друг друга, сохранять хорошее настроение. Свое и того, кто рядом. Мы часто не понимаем, что счастливы, когда счастливы, не ценим то, что имеем. И только когда большое горе навалится, прозрение наступает: как же хорошо до этого было!*

У одиночества в преклонном возрасте такой горький привкус…

**Лариса НАСАНОВИЧ.**

*Солигорск.*

ФОТАФАКТ

# Ігар Стасевіч ускочыў у гісторыю

*Беларускі футбаліст трапіў у падборку «дзіўных» фотаздымкаў тэлеканала ЗША.*

Падборка складаецца з 28 цікавых спартыўных фота другога па велічыні аўдыторыі тэлеканала ў ЗША – CNN, паведамляе minsknews.by са спасылкай на канал.

На фота – гульнявы эпізод з удзелам футбаліста зборнай Беларусі **Ігара Стасевіча**, які спрытна пераскоквае праз галандца **Фрэнкі дэ Ёнга** падчас адборачнага матча Еўра-2020 на стадыёне «Дынама» ў Мінску.

Дарэчы, у той дзень зборная Беларусі прайграла камандзе з Нідэрландаў. Матч закончыўся з лікам 1:2 на карысць гасцей.



ФУТБОЛ

# Адзін крок да чэмпіёнства…

*Прайшлі матчы 26-га тура чэмпіянату Беларусі па футболе.*

Вось іх вынікі: «Нёман» (Гродна) – «Мінск» – 1:0, «Тарпеда» (Мінск) – «Гарадзея» – 0:3, «Энергетык-БДУ» – «Дынама» (Мінск) – 3:3, «Слуцк» – «Славія» (Мазыр) – 0:0, «Гомель» – «Дынама» (Брэст) – 1:2, «Ісланч» (Мінскі раён) – «Дняпро» (Магілёў) – 1:1, «Віцебск» – «Тарпеда-БелАЗ» (Жодзіна) – 0:0, «Шахцёр» (Салігорск) – БАТЭ (Барысаў) 2:2.

### Турнірнае становішча

| Каманды | Гульні | Выйгрышы | Нічыі | Паражэнні | Мячы | Ачкі |
|---|---|---|---|---|---|---|
| Дынама (Бр) | 26 | 22 | 4 | 1 | 64–19 | 67 |
| БАТЭ | 25 | 18 | 4 | 3 | 51–15 | 58 |
| Шахцёр | 25 | 17 | 4 | 4 | 49–18 | 55 |
| Дынама (Мн) | 25 | 14 | 4 | 7 | 38–28 | 46 |
| Іслач | 26 | 12 | 6 | 8 | 36–30 | 42 |
| Тарпеда-БелАЗ | 25 | 12 | 6 | 8 | 34–30 | 42 |
| Гарадзея | 26 | 11 | 7 | 8 | 28–25 | 40 |
| Нёман | 26 | 9 | 5 | 12 | 23–33 | 32 |
| Віцебск | 26 | 8 | 7 | 11 | 23–32 | 31 |
| Мінск | 26 | 7 | 8 | 11 | 33–42 | 29 |
| Славія | 25 | 7 | 6 | 12 | 26–32 | 27 |
| Слуцк | 26 | 7 | 6 | 13 | 24–44 | 27 |
| Дняпро | 25 | 6 | 6 | 13 | 25–32 | 24 |
| Энергетык-БДУ | 26 | 5 | 8 | 13 | 41–61 | 23 |
| Гомель | 26 | 4 | 8 | 14 | 35–45 | 20 |
| Тарпеда | 25 | 1 | 3 | 21 | 4–48 | 6 |

Фота: fcbate.by.

Адрас рэдакцыі: 220030 Мінск, вул.Энгельса, 34а.
Прыёмная: тэл./факс (017) 328-68-71.
Рэкламны аддзел (017) 328-66-09.
nvonlineinfo@gmail.com
http://www.nv-online.info
Падпісныя індэксы:
63222 – для індывідуальных падпісчыкаў,
632222 – для прадпрыемстваў і арганізацый.
Заснавальнік, выдавец і галоўны рэдактар Іосіф Паўлавіч СЯРЭДЗІЧ
Паколькі ў рэдакцыі няма магчымасці рэцэнзаваць і вяртаць нявыкарыстаныя матэрыялы, яна пакідае права ўступаць у перапіску за сабой. За інфармацыю, размешчаную ў рэкламных аб'явах, рэдакцыя не адказвае. Могуць друкавацца матэрыялы, у якіх пазіцыя аўтараў не падзяляецца газетай. Пасведчанне аб дзяржаўнай рэгістрацыі сродку масавай інфармацыі №947 ад 6 студзеня 2010 г. выдадзена Міністэрствам інфармацыі Рэспублікі Беларусь (пасведчанне аб дзяржаўнай рэгістрацыі №224 ад 6 сакавіка 2000 г.). Надрукавана ў друкарні дзяржаўнага прадпрыемства «Выдавецтва «Беларускі Дом друку». ЛП №02330/106 ад 30.04.2004. Мінск, пр. Незалежнасці, 79. Падпісана ў друк 28.10.2019 у 17.00. Аб'ём 4 друк. аркушы. Тыраж 22 267 экз. Заказ № 3469.

